# НАША СВАБОДА

№7(234) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

21 СТУДЗЕНЯ 2002 году ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 284-36-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ


## Квоты на імпартныя цыгарэты

З 1 красавіка 2002 году па 31 снежня 2004 году ў Беларусі будуць дзейнічаць імпартныя квоты на тытунёвыя вырабы. Квота ў 2002 годзе складае 3 мільярды штук, для іншага тытуню прамысловага вырабу, апроч таго, які выкарыстоўваецца ў якасці сыравіны для вытворчасці тытунёвай прадукцыі — 2 тоны.

З 1 красавіка ўвоз на тэрыторыю краіны тытунёвых вырабаў ажыцьцяўляецца юрыдычнымі асобамі і прыватнымі прадпрымальнікамі пры наяўнасці ліцэнзіі на права імпарту тытунёвых вырабаў і часткі гэтай квоты. Юрыдычныя асобы і прыватныя прадпрымальнікі, якія да 1 студзеня фактычна заплацілі авансавыя плацяжы акцызаў і якія не атрымалі права на імпарт тытунёвых вырабаў у 1 квартале гэтага году, могуць ажыцьцяўляць іх увоз да 1 лютага, а рэалізацыю — да 1 сакавіка.

**Ірына САЗАНОВІЧ**

## Арафат сыдзе?

Лідэр Палестынскай аўтаноміі Ясір Арафат гатовы ў найбліжэйшыя дні абвясціць пра сваю адстаўку. Пра гэта паведаміла ізраільская служба навінаў *Ynet* са спасылкаю на «высокапастаўленыя палестынскія крыніцы». Гэтыя крыніцы цвердзяць, што ў выпадку адстаўкі лідэра АВП з пасады прэзідэнта аўтаноміі палестынская адміністрацыя будзе цалкам распушчана. Прычына магчымай адстаўкі Арафата – нязданнасць заручыцца падтрымкай Захаду пасля тэракту ў Хадэры. І ЗША, і кіраўніцтва краін Еўрасаюзу занялі жорсткую пазіцыю ў дачыненні да Арафата пасля таго, як ваеннае крыло АВП узяло на сябе адказнасць за расстрэл дзесяткаў мірных жыхароў у зале ўрачыстасцяў на поўначы Ізраілю.



Згодна з чуткамі, якія цыркулююць на падуладных Арафату тэрыторыях, лідэр палестынцаў ужо запісаў тэлезварот да суграмадзянаў, дзе паведамляе пра сваю адстаўку і тлумачыць яе нязданасцю кантраляваць сітуацыю.

Адзін з суразмоўцаў *Ynet* паведаміў, што апошнімі днямі Ясір Арафат «кажа пра тое, што гатовы трапіць у рай, і пра тое, што памрэ як шахід (мучанік ісламу)», — расказала высокапастаўленая палестынская крыніца, якая пажадала застацца невядомаю.

# Чырвонае святло для расійскага інвестара




*Беларускі бровар «Крыніца» рызыкуе застацца без стратэгічнага партнёра. Расійская кампанія «Балтыка» не можа дамагчыся ад беларускіх уладаў дазволу на продаж кантрольнага пакету. Кошт пытання – ад 25 да 50 мільёнаў даляраў.*

### Крынічныя мары «Балтыкі»

Летась Беларусь наведала прадстаўнічая дэлегацыя «Балтыкі» з генеральным дырэктарам Тэймуразам Балоевым на чале. Той праўдзе сустрэчу з Аляксандрам Лукашэнкам, на якой беларускі кіраўнік паабяцаў «саюзнікаму» прадпрыемству сваю падтрымку намеру прыбраць да рук «Крыніцу». Але гэта было яшчэ да прэзідэнцкіх выбараў.

Па выніках візіту «Балтыка» падпісала дамову аб утварэнні інвестыцыйнага праекту «Балтыка–Крыніца». Паводле папярэдняй дамоўленасці, расійскі бровар набывае 50% плюс адну акцыю беларускага прадпрыемства за 13,35 мільёна даляраў, то бок кантрольны пакет, праз дадатковую эмісію акцыяў, пасля чаго пачынае інвеставаць у развіццё «Крыніцы». Агульны памер «балтыйскіх» укладанняў ацэньваўся ў памеры да 50 мільёнаў даляраў.

Для канчатковага продажу беларускага бровару расіянам заставалася толькі адна фармальнасць – рашэнне савету акцыянераў аб новым выпуску акцыяў «Крыніцы», пасля набыцця якіх «Балтыка» лічылася б ужо паўнавартасным гаспадаром на беларускім прадпрыемстве. Адзначым, што 90% акцыяў «Крыніцы» дагэтуль належаць беларускай дзяржаве, а 10% — супрацоўнікам прадпрыемства. Таму, фактычна, прыняцце рашэння сходам акцыянераў зводзіцца да падпісання ўрадавай пастановы аб дадатковай эмісіі акцыяў.

Але на гэтай дробязі «Балтыка» і спатыкнулася.

### Слова беларускага партнёра

Вырашальны сход акцыянераў мусіў адбыцца яшчэ 3 снежня мінулага году. Але дагэтуль урадавага рашэння па «Крыніцы» няма.

**У калідорах прэзідэнцкай адміністрацыі цяпер кажуць, што не дадуць расіянам узяць кантроль над такім важным беларускім прадпрыемствам. Прагучала і новая лічба: нібыта цяпер беларускае кіраўніцтва гатовае развітацца толькі з 30% акцыяў «Крыніцы», што аўтаматычна пазбаўляе «Балтыку» права на правядзенне самастойнай палітыкі.** Беларускі кіраўнік быццам бы выказаў пажаданне: няхай спачатку «Балтыка» цалкам рэканструюе завод, а потым ужо паглядзім – прадаваць ім кантрольны пакет акцыяў ці не.

*Заканчэнне на стар.3*




# Склад беларускай дэлегацыі ў Солт-Лейк-Сіці

Прэзідэнт Беларусі і Нацыянальнага алімпійскага камітэту А.Лукашэнка зацвердзіў склад беларускай дэлегацыі на XIX зімовыя Алімпійскія гульні ў Солт-Лейк-Сіці.

У склад дэлегацыі ўвайшлі 138 чалавек, у тым ліку 61 спартсмен. 10 з іх будуць прадстаўляць Беларусь у біятлоне, 5 – у фрыстайле, 2 – у фігурным катанні, 4 – у канькабежным спорце, 14 – у лыжных гонках, 23 – у хакеі, па 1 – у шорт-трэку, лыжным двухбор'і і скачках на лыжах з трампліну. Яшчэ 20 чалавек (14 хакеістаў, 3 біятланісты, па 1 фрыстайлісту, канькабежцу і лыжніку) залічаны ў рэзерв.

У Солт-Лейк-Сіці адпраўяцца таксама 35 трэнераў, 12 дактароў, масажыстаў і псіхолагаў, 15 прадстаўнікоў СМІ (7 з друкаваных выданняў і 8 з Беларускага тэлебачання), фундатары і спартыўныя чыноўнікі, у тым ліку віцэ-прэзідэнты НАК М.Ананьеў і А.Мядзведзь, генеральны сакратар НАК А.Іваноў. Кіраўніком беларускай дэлегацыі прызначаны міністр спорту і турызму Я.Ворсін, шэфам місіі — выканаўчы дырэктар НАК Я.Барычка.

Асобныя чальцы дэлегацыі адпраўяцца на Алімпіяду коштам «прыцягнутых сродкаў» (астатнія едуць за сродкі бюджэту і НАК). Гэта, у прыватнасці, кіраўнік Беларускага саюзу канькабежцаў І.Жалязоўскі, прэзідэнт федэрацыі фрыстайлу, рэктар Белдзяржуніверсітэту А.Казулін, артыст тэатру «Хрыстафор» А.Длускі.

**БелаПАН**

## ВЕСТКІ



### «Гарызонт» з плоскім экранам

У 2002 годзе завод «Гарызонт» распачынае выпуск новых мадэляў тэлевізараў. У іх ліку — першы беларускі тэлевізар з плоскім экранам. Сярод іншых «наваротаў» у новым пакаленні тэлевізараў – адмысловы «замок», які абмяжоўвае дзецям доступ да тэлевізара. Усяго сёлета на «Гарызонце» мяркуюць выпусціць паўмільёна тэлевізараў.

### «Форды» ў Беларусі

Аб'ём продажаў «Форд Мотар Компані» праз афіцыйных дылераў у Расіі і Беларусі ў 2001 годзе склаў 4 124 аўтамабілі. Пазалетась было ўтрая меней – 1 257 машын. Асобнай статыстыкі па Беларусі і па Расіі «Форд» не вядзе. Што да мадэляў, то беларусы і расейцы аддаюць перавагу «Фокусу» (57%), «Мандэо» (25%) і «Транзіту» (8%). У гэтым годзе кампанія плануе прадаць на расійскім і беларускім рынках у два разы болей аўтамабіляў, чым летась.

### Стратнае будаўніцтва

Міністр архітэктуры і будаўніцтва Генадзь Курачкін паведаміў, што ў мінулым годзе ў Беларусі колькасць стратных прадпрыемстваў у будаўніцтве павялічылася больш як удвая: такіх у будаўніцтве налічваецца 24% і 47% — у галіне вытворчасці будматэрыялаў.

### Верталёты для выратавальнікаў

У сістэме міністэрства па надзвычайных сітуацыях Беларусі прадугледжваецца стварэнне аэрамабільнага і кіналагічнага атрадаў. Выратавальнікі на верталётах будуць браць удзел у папярэджанні і ліквідацыі лясных і тарфяных пажараў.

### Рэрых у Мінску

18 студзеня ў Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны адкрылася выстава жывапісу вядомага рускага мастака Мікалая Рэрыха. Творчую акцыю арганізавалі Міжнародны цэнтр-музей імя Мікалая Рэрыха (Масква). На выставе прадстаўлены 60 карцін з цыклу «Гімалаі», напісаных у 1937-1947 гадах. Выстава працягнецца да 13 лютага.

### Ахвяры галалёду

Праз галалёд прыкладна 100 жыхароў беларускай сталіцы штодзённа трапляюць у бальніцы з траўмамі і ўдарамі. Супрацоўнікі Мінскай гарадской станцыі хуткай дапамогі кожны дзень робяць больш за паўтары тысячы выездаў. Узровень траўматызму сёлета на 30% вышэйшы, чым летась.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

## Курс наяўнага даляра на «чорным рынку»

**1700**

## У Мінску чакаюць місію ПА АБСЕ

Да канца студзеня ў Мінск мае прыехаць дэлегацыя Парламенцкай асамблеі АБСЕ дзеля правядзення маніторынгу ўнутрыпалітычнай сітуацыі ў Беларусі. Як заўсёды, у часе працы ў Мінску дэлегацыя плануе правесці сустрэчы з прадстаўнікамі як афіцыйнага Мінску, так і апазіцыі, праваабарончых арганізацыяў, СМІ.

5-6 лютага збіраецца чарговая сесія ПА АБСЕ, на якой ізноў можа паўстаць пытанне пра «пустое крэсла» для Беларусі.

Не прызнаўшы вынікаў рэферэндуму 1996 году і, натуральна, не прызнаючы злепленую з рэштак разагнанага Вярхоўнага Савету 13-га склікання Палату прадстаўнікоў 1-га склікання, ПА АБСЕ ўважала за адзіны легітымны парламент Беларусі ВС — ажно да 9 студзеня 2001 году, калі пяцігадовы тэрмін паўнамоцтваў ВС скончыўся. Летась на зімовай сесіі Парламенцкая асамблея фактычна вызначыла для Беларусі статус «пустога крэсла»: паўнамоцтвы ВС скончыліся, а прызнаваць новастворанную ПП 2-га склікання ПА АБСЕ не стала, хоць на сесіі з таго часу запрашаліся абедзве дэлегацыі.

На сесію ПА АБСЕ паедуць абедзве дэлегацыі з Беларусі. Вядома, што апазіцыю будзе прадстаўляць дэлегацыя Кансультацыйнай рады апазіцыйных палітычных партыяў у складзе старшыні АГП Анатоля Лябедзькі, намесніка старшыняў БСДП (Народная Грамада) Уладзіміра Нісцюка і партыі жанчын «Надзея» Наталлі Хрусталёвай. «Відавочна, пытанне па Беларусі будзе ўздымацца на сесіі ПА АБСЕ ў чарговы раз, бо дагэтуль так і не вырашана: хто ж прадстаўляе нашу краіну ў гэтай арганізацыі», — кажа намеснік старшыні Вярхоўнага Савету 13-га склікання Анатоль Лябедзька.

Рыгор БУЯН

СМІ

## Справа «Куцейны»

18 студзеня ў аршанскім гарадскім судзе прайшло чарговае паседжанне дзеля перагляду справы аб канфіскацыі камп'ютэраў, на якіх да жніўня мінулага году абмежаваным накладам выпускалася адзіная ў горадзе недзяржаўная газета «Куцейна». Камп'ютэры былі канфіскаваныя ў кастрычніку паводле пастановы гэтага ж суду, якую суддзя Алена Дзямешчанка вынесла пры адсутнасці рэдактара выдання Віктара Андрэева.

У адказ на скаргі рэдактара «Куцейны» абласная пракуратура, Віцебскі абласны суд і абласное ўпраўленне юстыцыі адмянілі гэтае рашэнне аршанскіх калегаў і запатрабавалі перагляду справы. 9 студзеня адбылося першае судовае паседжанне па паўторным разглядзе гэтае справы, падчас якога суддзя Анжэліка Казлова запытала пазбаўленага магчымасці выдаваць сваю газету рэдактара і сведкаў з ягонага боку. Суддзя даведалася, што напярэдадні новага году аршанскія гарадскія ўлады пазбавілі Андрэева ліцэнзіі прыватнага прадпрымальніка, якраз неўзабаве пасля таго, як у гэтай якасці ён зарэгістраваў новую незалежную гарадскую газету. Далейшы разгляд справы быў перапынены з-за адсутнасці следчага КФР Уладзіміра Бурскага і перанесены на 18 студзеня.

На другое паседжанне Бурскі не з'явіўся зноў. Суддзя А.Казлова заявіла, што без ягоных паказанняў разгляд справы праводзіцца не можа, і прызначыла чарговае паседжанне на 12 лютага, выказаўшы намер тым часам зрабіць захады па яго прымусовай дастаўцы ў залу суду.

Міхал ЧАРВІНСКІ

## Другі фестываль недзяржаўнай прэсы

18 студзеня ў Мінску прайшоў Другі беларускі фестываль недзяржаўнай прэсы. На ім былі прадстаўленыя каля 60 недзяржаўных выданняў з усіх рэгіёнаў краіны.

Як адзначыў у гутарцы з карэспандэнтам БелаПАНу старшыня аргкамітэту фестывалю, віцэ-прэзідэнт БАЖ Эдуард Мельнікаў, цяперашні фестываль «прайшоў лепш, больш арганізавана, з большым пад'ёмам, чым першы фестываль, які адбыўся ў 2000 годзе». І гэта нягледзячы на тое, што 2001 год — год прэзідэнцкіх выбараў — быў вельмі цяжкі і драматычны для недзяржаўнай палітычнай журналістыкі. Цяжка назваць выданне, якое не спазнала б уціск з боку органаў улады, пагрозы закрыцця, канфіскацыю тыражоў. «Значыць, незалежная дэмакратычная прэса будзе дынамічна развівацца, яе ўплыў у грамадстве будзе расці», — лічыць Мельнікаў.

Генадзь БАРБАРЫЧ

## Пісьменнікі за «Пагоню»

Расійскі ПЭН-цэнтр выказаў занепакоенасць лёсам рэдактара беларускай недзяржаўнай газеты «Пагоня» Мікалая Маркевіча і журналіста Паўла Мажэйкі.

«Пагоня» была закрыта па рашэнні Вышэйшага гаспадарчага суду Беларусі ў лістападзе мінулага году. Падставай для гэтага стала публікацыя ў газеце матэрыялаў, якія, на думку прадстаўнікоў пракуратуры, змяшчалі паклёп у адносінах да прэзідэнта А.Лукашэнкі. У адносінах да Мікалая Маркевіча і Паўла Мажэйкі ўзбуджана крымінальная справа.

Вядомыя расійскія пісьменнікі, кіраўнікі ПЭН-цэнтру Андрэй Бітаў, Андрэй Вазнясенскі, Фазіль Іскандэр, Леў Цімафееў, Фелікс Светаў, Юнна Морыц і Аляксандр Ткачэнка — звярнуліся з адкрытым лістом да прэзідэнта Беларусі. «Мы лічым, — пішуць яны, — што ў гэтай сітуацыі было парушана права журналістаў на свабоднае выказванне сваёй думкі, гарантаванае артыкулам 19 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, і яны пераследуюцца за сваю прафесійную дзейнасць». Пісьменнікі заклікалі А.Лукашэнку выступіць у ролі гаранта Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і Дэкларацыі правоў чалавека, «выкарыстаць усю сваю ўладу і паўнамоцтвы для адмены рашэння аб закрыцці газеты «Пагоня» і спыненні пераследу журналістаў М.Маркевіча і П.Мажэйкі».

Генадзь БАРБАРЫЧ

## Абясточаныя да аварыйнай брані

Міністэрства энергетыкі Беларусі распарадзілася спыніць падачу электраэнергіі шэрагу прадпрыемстваў. Паводле звестак Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай, у шэрагу першых пад распараджэнне трапілі прадпрыемствы-няплатнікі Гродзенскай вобласці. З 18 студзеня да ўзроўню аварыйнай брані ад сетак энергазабеспячэння адключаны гродзенскі камбінат будаўнічых матэрыялаў, прадпрыемства «Гроднажылбуд», ААТ «Радыётэхніка», «Гроднатэкс» і «Лакафарба», лідскія заводы электравырабаў, «Оптык», дослідны завод «Нёман», а таксама гродзенскі завод «БелТАПАЗ».

БелаПАН

ТРЭЦІ СЕКТАР

## Канцэпцыя калектыўнай абароны

Прадстаўнікі 20 грамадскіх арганізацый з розных рэгіёнаў Беларусі сталі ўдзельнікамі «круглага стала» на тэму «Калектыўная абарона грамадскіх аб'яднанняў», паседжанне якога прайшло ў Мінску 19 студзеня. Ён быў арганізаваны Асамблеяй дэмакратычных недзяржаўных арганізацый Беларусі.

Аб сваіх праблемах расказалі прадстаўнікі арганізацый і СМІ, якія трапілі пад ціск з боку ўладаў. Такіх толькі на паседжанні прысутнічала больш за дзесятак. Сярод выступоўцаў былі: Віктар Карнеенка — кіраўнік гомельскага аб'яднання «Грамадзянскія ініцыятывы», якое ў хуткім часе можа быць зачынена па рашэнні суду; Віктар Андрэеў — рэдактар аршанскай недзяржаўнай газеты «Куцейна», якая не мае магчымасці рэгулярна выходзіць з-за сутыкненняў з мясцовымі ўладамі; Сяргей Няроўны — рэдактар крычаўскай незалежнай газеты «Вольны горад», супрацоўнікі якой зазналі крымінальны пераслед, аднак затым справа была спынена з-за адсутнасці складу злачынства.

Аб барацьбе за свае правы на «круглым стале» расказвалі таксама Павел Мажэйка — журналіст гродзенскай незалежнай газеты «Пагоня», закрытай па рашэнні Вышэйшага гаспадарчага суду 12 лістапада мінулага году, Крысціна Сідун — кіраўніца арганізацыі «Задзіночанне беларускіх студэнтаў», закрытай па рашэнні Вярхоўнага суду Беларусі, а таксама прадстаўнікі гомельскага аб'яднання «Гарт» і гродзенскай арганізацыі «Ратуша».

Удзельнікі «круглага стала» абмеркавалі метады і формы абароны правоў грамадскіх аб'яднанняў, заслухалі выступленні юрыстаў. Была створана група па дапрацоўцы канцэпцыі калектыўнай абароны грамадскіх аб'яднанняў. Мэта канцэпцыі — аказанне юрыдычнай дапамогі арганізацыям у судовых справах з уладамі.

Генадзь БАРБАРЫЧ

РАССЛЕДАВАННЕ

## Справа шпуляў

На Беларускім металургічным заводзе (БМЗ) лічаць, што сума шкоды па ўзбуджанай нядаўна крымінальнай справе моцна перабольшана. Пра гэта 18 студзеня паведаміў намеснік генеральнага дырэктара па інфармацыйнай працы прадпрыемства Мікалай Аксёнаў.

Як раней паведамляў БелаПАН, крымінальная справа была ўзбуджана некалькі дзён таму ўпраўленнем камітэту па барацьбе з аргзлачыннасцю і карупцыяй пры МУС Беларусі па Гомельскай вобласці па частцы 3 артыкулу 424 КК РБ — злоўжыванне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі. Сума меркаванай шкоды называлася ў межах 111 млн. рублёў.

Размова ідзе пра недахоп металічных шпуляў, якія выкарыстоўваюцца для намотвання спружыннага дроту. Як патлумачыў Мікалай Аксёнаў, шпулі выпускаюцца самім заводам і служаць тарай. За сценамі прадпрыемства або ў выпадку дэфармацыі яны прыгодныя толькі на металалом. Такія шпулі падлягаюць спісанню.

Паводле словаў намесніка дырэктара, выяўлены недахоп 50 шпуляў. Іх кошт, калі меркаваць, што яны былі новыя, не перавышае 15 млн. рублёў. У той жа час Мікалай Аксёнаў сказаў, што ў 2001 годзе Беларускі металургічны завод выпусціў прадукцыі на суму, якая перавышае на 5,5% узровень 2000 году.

Ірына ШАНЦАВА

## «Беларускае пытанне» чакае сваёй чаргі

На сесіі ПА СЕ, якая пройдзе з 21 па 26 студзеня ў Страсбургу, таксама «беларускае пытанне» падымацца не будзе. Гэта значыць, што сесія не стане разглядаць верагоднасць вяртання Беларусі статусу «спецыяльна запрошанага», які замарожаны 13 студзеня 1997 году з-за непрызнання вынікаў лістападаўскага рэферэндуму 1996 году. Тым не менш, дэлегацыя Кансультатыўнага савету апазіцыйных палітычных партыяў і Палаты прадстаўнікоў 2-га склікання ўсё ж паехалі ў Страсбург. Старшыня АГП Анатоль Лябедзька, намеснікі старшыняў БСДП (Народная Грамада) Уладзімір Нісцюк ды партыі жанчынаў «Надзея» Наталля Хрусталёва мяркуюць вынесці на суд парламентароў ПА СЕ абноўлены варыянт так званай «пакрокавай стратэгіі для Беларусі», якая — у дэталізаваным выглядзе і з новай назвай «Агульныя палажэнні платформы КСАПП» — прынятая КСАПП 16 студзеня. Адзінае адрозненне ад папярэдняга варыянту заключаецца толькі ў тым, што КСАПП просіць надаць Савету афіцыйны статус у ПА СЕ, у ПА АБСЕ — каб мець роўны статус з дэлегацыяй Палаты прадстаўнікоў і роўныя магчымасці для выказвання сваёй пазіцыі з еўрапейскай трыбуны.

У дэлегацыі КСАПП ёсць і яшчэ адна місія: перадаць кіраўніцтву ПА СЕ, кіраўнікам палітычных групаў зварот жонак ахвяраў палітычных рэпрэсіяў: Людмілы Карпенкі, Ірыны Красоўскай, Вольгі Захаранкі, Зінаіды Ганчар, Святланы Завадскай, Тацяны Клімавай-Леановіч.

Жанчыны просяць ПА СЕ націснуць на беларускія ўлады дзеля стварэння камісіі з удзелам міжнародных экспертаў для расследавання ўсіх гучных справаў і на паседжанні падкамітэту па правах чалавека ў красавіку ў рамках вясновай сесіі ПА СЕ разгледзець праблему па ахвярах палітычных рэпрэсіяў у Беларусі.

Становішча са СМІ на Беларусі будзе разглядаць толькі Камітэт па адукацыі, навукі і СМІ ПА СЕ 24 студзеня. Дэлегацыю ад незалежных СМІ ўзначальвае прэзідэнт БАЖ Жанна Літвіна, беларускіх уладаў — міністр інфармацыі Міхаіл Падгайны.

Рыгор БУЯН

## Мытня зарабляе грошы

Гродзенская рэгіянальная мытня за 2001 год зарабіла для бюджэту 237 мільёнаў даляраў. За гэты час афармілі больш за 3 мільёны пасажыраў, больш за 1 мільён легкавых аўтамашын і 170 тысяч грузавых. Непрыемна толькі тое, што начальнік мытні В.Пракопчык ужо некалькі месяцаў знаходзіцца пад следствам і не працуе.

Сяргей МАКСІМОВІЧ

## Хваля звальненняў на БТ

У новым годзе на Беларускім тэлебачанні адбылася цэлая хваля звальненняў ягоных супрацоўнікаў. Сярод самых гучных – сыход па ўласным жаданні з БТ вядучага праграмы «Падзея» Яўгена Мялешкі і генеральнага прадзюсера каналу Ягора Хрусталёва. Па чутках, тое самае бліжэйшым часам можа зрабіць (ці яго папросяць гэта зрабіць) і старшыня Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніі Ягор Рыбакоў, толькі напрыканцы мінулага году прызначаны на гэтую пасаду. Не выключана таксама, што рыхтуецца праверка фінансавай дзейнасці БТ за апошнія гады.

Кірэй МАНУЙЛА

ВАДОХРЫШЧА





Фота Ул.ШЛАПАКА

Мар'іна Горка. Вернікі на свята Іардані ў чарзе за святой вадой

НОЎ-ХАЎ

## У Беларусі вырабляецца самая «хуткая» кабура ў свеце

У Беларусі вырабляецца самая «хуткая» кабура ў свеце. Яна распрацавана калектывам спецыялістаў Нацыянальнага дызайн-цэнтру, Акадэміі МУС і аб'яднання «Інтэлектуальны рэсурс».

Кабура прызначана для пісталета Макарава (ПМ), найбольш распаўсюджанага на тэрыторыі СНД. Калі штатная савецкая («наркамаўская») кабура пад ПМ адкрываецца за 1,2 секунды, а найлепшая амерыканская кабура фірмы «Біянчы Інтэрнэшнл» з «хуткай кнопкай» – 0,6 секунды, то бліц-кабура (БК, ці «беларуская канструкцыя») – усяго 0,02 секунды. Гэта значыць, яна «хутчэйшая» за амерыканскую ў 30 разоў.

Спецыялісты адзначаюць, што эканомія часу пры даставанні караткаствольнай зброі мае важнае, а часам – літаральна жыццёвае значэнне, паколькі дазваляе апярэдзіць праціўніка ў момант адкрыцця агню і такім чынам выжыць. Гэтая акалічнасць вельмі важная для супрацоўнікаў праваахоўных органаў, байцоў антытэрарыстычных падраздзяленняў, вайсковых разведчыкаў, целаахоўнікаў.

Калектыў спецыялістаў распрацаваў таксама канструкцыю кабуры пад ПМ, якая аўтаматычна здымае пісталет з засцерагальніка. «Мы марылі б, калі гэта спатрэбіцца, зрабіць кабуру, якая б сама дасылала патрон у патроннік», – сцвярджаюць стваральнікі БК.

Віктар РУДНОЎ

# Сёння і потым

*У справаздачнасці і ўліку тэхналогія такая, што міністэрства статыстыкі і аналізу можа падсумаваць вынікі году толькі ў сярэдзіне студзеня. Вось і цяпер грамадскасць атрымала дакументальнае пацверджанне сваім спадзяванням і разлікам.*




Не думаю, што нехта адчуў ці знайшоў значнае разыходжанне. Афіцыйныя дадзеныя ў поўным аб'ёме цікавяць мала каго. Сакрэту з іх ніхто не робіць, але выдаюцца яны надта малым накладам.

Карацей, чытай, не чытай, а думка адна ўзнікае. Ва ўсіх. Што ж гэта далей з намі будзе?

Самы просты адказ існуе пры максімальнай глыбіні прагнозу – нас не будзе. Сярэднетэрміновы прагноз гэтаксама метадалагічна просты, і адказ адпаведны – будзе прыкладна тое, што і было.

Самая складаная задача – гэта кароткатэрміновы прагноз. Яго аналітык мусіць цягнуць з наяўных дадзеных, як павучок павуцінне. Рэч у тым, што ў нашым зменлівым жыцці незваротныя змены – з'ява нячастая. Да таго ж заўважылі кемлівыя людзі, што некаторыя змяненні пачынаюцца раней за іншыя.

Гледзячы на тое і быў пабудаваны спосаб прагназавання, які абапіраецца на раннія прыкметы. Прыкладам, цякло са стрэхаў на праваслаўнае Хрыстова Нараджэнне – можа бульба памокнуць. Альбо: зрабілі інвестыцыі, проста кажучы – пабудавалі новы цэх, бач – ён праз пэўны час пачаў даваць прыбытак.

Паспрабуйма ж і мы вычытаць нешта ў справаздачы мінстату. Такое, каб дазволіла хоць крыху зазірнуць за заслону бліжэйшай будучыні. На паўгода, на год наперад. Толку ад таго не надта шмат, але ж цікава. Вось два слупочкі лічбаў за апошнія дзесяць гадоў, што мы пражылі сваім ладам у незалежнай краіне. У адным паказана, як змяняліся інвестыцыі, у другім – што адбывалася з памерам валавога ўнутранага прадукту.

А як параўнаеш у аднолькавым маштабе, у адхіленні ад сярэдняй за дзесяць гадоў велічыні, іхныя ўзлёты і падзенні, то адразу відаць — што спачатку, што потым.

Падзенне аб'ёму інвестыцыяў вытворчага прызначэння (а менавіта яны паказаныя на малюнку), справакаванае трансфармацыйным спадам пасля развалу сацыялізму, дасягнула свайго мінімуму ў 1994 годзе. ВНП – працягваў сваё крутое піке.

Дастаткова было актывізавацца інвестыцыйнаму працэсу, і пайшоў угару асноўны інтэгральны паказчык нашых эканамічных поспехаў.

Але маса крэдытаў, частка якіх стала новым сучасным абсталяваннем і вытворчымі плошчамі, абярнулася інфляцыяй.

Потым Нацыянальны банк другі раз за часы незалежнасці стаў набліжацца да перамогі над інфляцыяй. І што ж — інвестыцыйная крывая спачатку амаль спрамілася, ды зноў абрынулася долу. На фоне сёлетніх някепскіх паказчыкаў прыросту ВНП і прамысловай прадукцыі адставанне інвестыцыяў ад зацверджаных адмысловым Найвышэйшым указам на 10% выглядае проста жахліва. А звонку нам грошы ніхто на развіццё вытворчасці не дае. Нават лепшыя сябры пазычаюць неахвотна.

Тым не менш, вытворцы адхапілі амаль столькі ж, як і ў папярэднім годзе. Электарату шкада, яго чакае сапраўднае расчараванне. Увод у дзеянне жылых дамоў за 2001 год не дацягнуў да 86% ад узроўню двухтысячнага.

Так што кожнаму сёмаму патэнцыйнаму навасёлу шчасце не абламілася. Пацерпяць. Самая любімая сельская гаспадарка на свеце таксама пацерпіць. Ёй дасталося ажно 69% інвестыцыяў ад узроўню папярэдняга году. І гэта не дзеля інфляцыі, а ў супаставімых коштах. Нешта ў гэтым згадваецца вельмі знаёмае, памятаеце — «Харчовая праграма», «Кватэру кожнай сям'і ў 2000 годзе». Не ўгледзелі камуністы будучыні. Здаецца, усё проста: «Не пакорміш – здохне. Не заправіш – не паедзе». А не атрымалася; або, можа, мы не зразумелі чаго.

Дык што, сёлета і чарговы ўказ нумар сорак не дапаможа? Не спрацуе, кажаце. І замежныя інвестыцыі не спрацуюць.

Час патрэбны. Бо мы ж усё шукаем будучыні паміж ВКЛ і СССР.

Ды застаемся па-за часам. Паміж. Пры дарозе з Масквы ў Варшаву. А мо і наадварот. Гэта як каму падабаецца.

**Юзік ЛАБЭЦКІ**

# Маруднае паляпшэнне жыллёвых умоваў

За апошнія тры гады ўдвая зменшылася колькасць грамадзян, знятых з чаргі на паляпшэнне жыллёвых умоваў у сувязі з вырашэннем жыллёвай праблемы. Пра гэта паведаміў на прэс-канферэнцыі ў Мінску начальнік галоўнага ўпраўлення інфраструктуры і жылля міністэрства архітэктуры і будаўніцтва Беларусі Уладзімір Падвалоцкі. Паводле ягоных словаў, у 1998 годзе з уліку было знята 39 тыс. чалавек, у 2000 годзе — 24 тыс., а ў 2001-м — толькі 20 тысяч.

Разам з тым чарга на паляпшэнне жыллёвых умоваў не змяншаецца і цяпер складае каля 570 тыс. чалавек, з іх 140 тыс. стаяць на ўліку 10 і болей гадоў. У Гродзенскай вобласці ўдзельная вага грамадзян, якія стаяць на ўліку 10 і болей гадоў, дасягае 30%, у Мінску — 35,7% чаргавікоў.

Цяперашняя сітуацыя звязана з павелічэннем нормы для пастаноўкі на ўлік (з 6 квадратных метраў жылой да 15 квадратных метраў агульнай плошчы кватэры), адданнем перавагі маладым сем'ям, павелічэннем сярэдняй плошчы кватэр (з 55 да 80 квадратных метраў) пры адсутнасці прыросту аб'ёму жылля, змяншэннем дзяржаўнай падтрымкі будаўніцтва жылля. «Калі захаваюцца цяперашнія тэмпы зняцця з уліку, то чалавек, які стаў у чаргу летась, зможа атрымаць жыллё толькі праз чвэрць стагоддзя», — канстатаваў Падвалоцкі.

У 2001 годзе «мела месца нямэтавае выкарыстанне сродкаў жыллёва-інвестыцыйных фондаў». Па выніках праверкі, праведзенай у снежні міністэрствам фінансаў, такія факты выяўлены ў Магілёўскай і Мінскай абласцях, а таксама ў сталіцы. У прыватнасці, у Магілёўскай вобласці з 773 млн.рублёў, накіраваных на фінансаванне жыллёвага будаўніцтва ў лютым—лістападзе 2001 году, па прызначэнні выкарыстана толькі 372 млн. Прычым 20% насельніцтва вобласці стаіць у чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў, а гэта «адзін з самых высокіх узроўняў у краіне».

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

# А ты здаў сваё цяля?

*Ашмянскія ўлады звярнуліся да жыхароў з прапановай здаваць у калгасы быдла. Каб не рэзалі на мяса. Людзям няма чым карміць свойскую жывёлу, а ў гаспадарках такая магчымасць цяпер ёсць. Раней было наадварот: з калгасаў аддавалі скаціну сялянам, каб не загінула ад бяскорміцы. А таксама перавозілі яе ў заходнія раёны вобласці, дзе з кармамі было лепей.*


Фота IREX/ProMedia

Калгасы будуць прымаць скаціну вагой не меней за 50 кг. Праўда, канкрэтныя расцэнкі не называюцца. Вядома толькі, што могуць плаціць збожжам наступнага ўраджаю! Улады «пераканаўча» просяць вяскоўцаў не дапускаць «заўчаснага адыходу маладняку». Маўляў, здасцё яго ў калгасы — добра зробіце і сабе, і ўсяму раёну. Кіраўнікі гаспадарак спадзяюцца сёлета здаць больш мяса, а таксама каля 20 тысяч тонаў малака, прычым каля 6 тысяч тонаў сабраць у насельніцтва. Цікава, што вяскоўцам будуць плаціць значна меней. Калгасам даюць за тону малака найвышэйшага гатунку 221 тысячу рублёў, першага — амаль 165 тысяч; а сялянам загадзя сказалі, што ім у любым выпадку будуць плаціць па расцэнках меншых, чым вызначана за першы гатунак.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Фальсіфікацыя прадуктаў харчавання

Якасць прадуктаў харчавання, якія вырабляюцца ў Беларусі, застаецца нізкаю, і ў гэтым найперш вінаваты вытворца. Да такой высновы прыйшлі ўдзельнікі «круглага стала», прысвечанага праблемам кантролю якасці харчавання і прадуктаў харчавання. Ён прайшоў 17 студзеня ў Грамадскім прэсцэнтры Дома прэсы ў Мінску.

Як паведаміў дырэктар Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтру па экспертнай ацэнцы якасці і бяспекі прадуктаў харчавання Валерый Мурох, ацэнка якасці прадуктаў харчавання як айчынных, так і тых, што завозяцца з-за мяжы, у Беларусі не праводзіцца. Якасць прадукту харчавання, паводле словаў Мураха, прадугледжвае наяўнасць у ім незаменных амінакіслот, вітамінаў, мікра- і макраэлементаў, а таксама мінімальнае ўтрыманне жывёльных тлушчаў і цукру. Прадукты харчавання ў Беларусі вырабляюцца прамысловым спосабам і не ўтрымліваюць прыродных вітамінаў, таму патрэбная праграма па абагачэнні іх біялагічна актыўнымі харчовымі дабаўкамі. Сёння, паводле словаў Муроха, утрыманне жывёльных тлушчаў у рацыёне беларуса ў два з палова раза вышэйшае, чым у рацыёне заходніх еўрапейцаў. У сувязі з гэтым Беларусь на першым месцы сярод еўрапейскіх краін па сардэчна-сасудзістых захворваннях.

Нізкая якасць прадуктаў, на думку начальніка інспекцыі па якасці і стандартах мінсельгасхарчу Генадзя Хаецкага, абумоўлена ў асноўным парушэннем тэхналагічных рэжымаў, састарэлым абсталяваннем, нездавальняючымі санітарнымі ўмовамі. На больш чым 2 600 прадпрыемствах з 3 751, правераных у 2001 годзе, былі ўстаноўлены парушэнні, паведаміў начальнік аддзелу дзяржаўнага нагляду за стандартамі Камітэту па стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі Віктар Нарыгін. У 778 выпадках была забаронена рэалізацыя асобных відаў і партый прадукцыі на суму 3 мільярды 874 мільёны рублёў.

Палепшыць сістэму кантролю за якасцю прадукцыі на вытворчасцях і змяніць дзяржаўныя стандарты і тэхнічныя ўмовы, шмат у чым не адпаведныя сусветным нормам, зможа закон аб якасці і бяспецы харчовай сыравіны і харчовых прадуктаў. Прыняцце гэтага закону, распрацаванага Навукова-практычным цэнтрам сумесна з міністэрствам аховы здароўя Беларусі яшчэ 5 гадоў таму, паводле словаў Муроха, чакаецца ўвесну 2002 году. Згодна з гэтым дакументам, адказнасць за якасць прадукцыі будуць несці не кантрольныя органы, а сам вытворца.

**Лавінія АРЭШКА**

# Тайная пастанова Саўміна

*«Гэта агонія ўлады, якая ўжо няздольная разумным шляхам выратаваць эканоміку ад банкруцтва», — так пракаментаваў былы старшыня Нацыянальнага банку Беларусі Станіслаў Багданкевіч пастанову Савету міністраў ад 12 снежня мінулага году «Аб некаторых мерах па выплаце заработнай платы работнікам галінаў эканомікі».*

Гэтай пастановай, якая нідзе не друкавалася і не ўнесеная нават у Нацыянальны рэестр прававых актаў, урад выдаткаваў звыш 100 мільярдаў рублёў стратным галінам народнай гаспадаркі на пагашэнне запазычанасці па заробках.

Асобныя моманты пастановы № 1794 варта працытаваць. Соль гэтага падзаконнага акту заключаецца ў пункце пад нешчаслівым нумарам 13. «Прапанаваць банкам, упаўнаважаным абслугоўваць дзяржаўныя праграмы, выдаць да 20 снежня 2001 году» наступныя крэдыты: 30 мільярдаў рублёў да 1 жніўня 2002 году... нарыхтоўчым і перапрацоўваючым сельскагаспадарчую прадукцыю арганізацыям; 10 мільярдаў рублёў арганізацыям спажывецкай кааперацыі для разлікаў за закупляныя харчовыя тавары, 5 мільярдаў рублёў арганізацыям, што абслугоўваюць сельскую гаспадарку, 5 мільярдаў – арганізацыям гандлю для разлікаў за закупляныя харчовыя тавары. 21 мільярд да 1 ліпеня выдзелены прамысловым, будаўнічым арганізацыям і ЖКГ. Ураду ўдалося ўвайсці ў новы год амаль без запазычанасці: з 11,8% ад фонду заработнай платы запазычанасці ў лістападзе ў снежні засталося толькі 0,8%. Былы старшыня Нацбанку Станіслаў Багданкевіч каментуе наступствы рэалізацыі пастановы для эканомікі краіны і для банкаў у прыватнасці.

— Калі крэдыторская запазычанасць па Беларусі складае звыш 7 трыльёнаў рублёў, калі амаль 3 трыльёны складае пратэрмінаваная запазычанасць, то гэта не рашэнне праблемы: агаліўшы ўсе іншыя плацяжы, выдалі крэдыты больш чым на 100 мільярдаў рублёў на разавую выплату зарплаты. Прычым з найгрубейшымі парушэннямі заканадаўства: ёсць Банкаўскі кодэкс, дзе чорным па белым запісана, што акцыянерныя камерцыйныя банкі цалкам самастойныя, яны не павінны выконваць нейкія прадпісанні і крэдытаваць стратны сектар эканомікі.

У нас дзве трэці суб'ектаў гаспадарання – стратныя, іх нельга крэдытаваць нават па законах планавай эканомікі.

Я так разумею, Нацбанк абавязалі пакрыць бюджэтны дэфіцыт за кошт безрэсурснай дадатковай эмісіі. Наколькі мне вядома з іншых крыніцаў, Нацбанк мусіў выкупіць каштоўныя паперы на дзесяткі мільярдаў рублёў у мінфіну. Гэта значыць, Нацбанк іх выкупіў, а затым паспрабуе прадаць камерцыйным банкам для пакрыцця бюджэту. Гэта страшная дзікасць, якая кажа за тое, што ў Навіцкага і ў яго каманды існуе адчай ад таго, што без кардынальных рэформаў ён няздатны паправіць сітуацыю ў эканоміцы.

Безумоўна, з часам паляціць курс нацыянальнай валюты. Гэта немагчыма спыніць, бо спыніцца вытворчасць.

**Рыгор БУЯН**

# Неразвіты маркетынг

У Беларусі, у сілу аб'ектыўных і суб'ектыўных прычын, маркетынг дагэтуль не атрымаў належнага развіцця. Пра гэта ў інтэрв'ю БелаПАНу заявіў кіраўнік праграм англійскага Каралеўскага інстытуту маркетынгу ў Беларусі, віцэпрэзідэнт Бізнес-школы Інстытуту прыватызацыі і менеджменту Міхаіл Калантай.

Як зазначыў Міхаіл Калантай, сёння беларуская эканоміка манапалізаваная, і большасць манапалістаў не мае неабходнасці даведвацца аб патрэбах рынку. Апрача таго, на чале многіх прадпрыемстваў стаяць людзі, якія дагэтуль упэўненыя, што маркетынг не дапаможа вырашыць праблемы прадпрыемства, што яны вырашаюцца толькі адміністрацыйнымі метадамі.

Разам з тым, лічыць Калантай, у нацыянальнай эканоміцы наступіў такі момант, калі знешняя і ўнутраная канкурэнцыя заявіла пра неабходнасць новых ведаў і ўменняў. Беларускія прадпрыемствы ўсё больш адчуваюць канкурэнцыю з боку расійскіх вытворцаў, асабліва ў лёгкай і харчовай прамысловасці. «Калі апошнія дзесяць гадоў на большасці дзяржаўных прадпрыемстваў Беларусі асноўным дакументам прызнаваўся план выпуску, то сёння галоўным дакументам павінен стаць план маркетынгу, — падкрэсліў Калантай. — З цяперашняй сітуацыі ўзмацнення канкурэнтнага асяроддзя выйсці толькі за кошт павелічэння выпуску прадукцыі немагчыма».

**Аляксей АРЭШКА**

# Паўстанне ўзначаліў наркам

*24 студзеня 1942 году ў лагеры «Лесарэйд» (Варкутлаг), які месціўся за шэсць кіламетраў ад паселішча Усць-Уса ў Комі АССР, пачалося паўстанне зняволеных. Праўду пра гэтае здарэнне архівы раскрылі зусім нядаўна...*

«Півавараў Уладзімір Іванавіч (1904–1941), наркам асветы БССР. Нарадзіўся ў 1904 годзе ў вёсцы Сямёнаўка Рагачоўскага раёну. У 1924 годзе пасля сканчэння Рагачоўскага педагагічнага тэхнікуму працаваў настаўнікам, дырэктарам сямігодкі ў Мазырскім раёне. У 1930 годзе скончыў фізіка-матэматычны факультэт БДУ. У 1930–1932 гадах — аспірант АН БССР. У 1935 годзе скончыў аспірантуру, абараніў кандыдацкую дысертацыю ў галіне геафізікі. У наступныя гады працаваў старшым навуковым супрацоўнікам Фізіка-тэхнічнага інстытуту АН БССР. З 29 кастрычніка 1937 году — наркам асветы БССР. 2 ліпеня 1938 году арыштаваны. 28 студзеня 1940 году выключаны з членаў КП(б)Б, рашэннем Ваеннай калегіі Вярхоўнага суду СССР ад 29 траўня 1940 году асуджаны на 15 гадоў папраўча-працоўных работ. Па афіцыйнай даведцы «органаў» памёр 28 жніўня 1941 году. Рэабілітаваны 25 снежня 1954 году».

Лагер «Лесарэйд» быў невялікі як па маштабах вытворчасці, так і па колькасці зняволеных. Цалкам іх тут было 193 плюс 27 чалавек вольнанаёмных. Дзве трацiны былі асуджаныя па 58-м артыкуле. Яны нарыхтоўвалі драўніну для шахтаў і шпалаў.

Тут утрымліваўся былы наркам асветы Беларусі У.Півавараў, які прайшоў праз катаванні двухгадовага следства ў мінскай унутранай турме НКВД. На абедзвюх ягоных руках каты вырывалі пазногці...

Восенню 1941 году ў «Лесарэйдзе» ўзнікла змова. Паводле матэрыялаў следства НКВД і лагернай адміністрацыі, яе ініцыятарамі сталі так званыя «трацкісты» і «эсэры». Ідэйнымі правадырамі трэба лічыць У.Піваварава і былога кіраўніка «Комілесу» А.Макеева.

Як бы там ні было, гэтыя два чалавекі праводзілі змову ў жыццё, шукалі аднадумцаў. Першы раз на арганізацыйны сход змоўшчыкі сабраліся ў снежні 1941 году. На іх думку, за паўстанцамі павінны былі пайсці і калгаснікі, якія галадалі. Збіраліся яшчэ некалькі разоў. Стварылі штаб паўстання і прызначылі яго тэрмін — студзень 1942 году.

Паўстанцы выпрацавалі такую праграму дзеянняў:

1. Вызваленне з лагераў і турмаў усіх вязняў.
2. Прыцягненне на свой бок працоўных і спецперасяленцаў, а таксама мясцовага насельніцтва.
3. Стварэнне на аснове добраахвотнага набору ўзброенай арміі для выпраўлення на фронт.
4. Хуткае развіццё прыватнай уласнасці і роспуск калгасаў.

Паўстанне павінна было пачацца аднachасова ў «Лесарэйдзе» і ў лагпункце Поле-Кур'я. Пасля аб'яднання мяцежнікі збіраліся захапіць райцэнтр Усць-Уса, адтуль праз рацыю выставіць ультыматум з патрабаваннем вызваліць усіх зняволеных Варкутлагу, а ў выпадку адмовы рухацца групамі на Варкуту, Інту, Котлас, вызваляючы вязняў.

Паўстанне пачалося ў суботу 24 студзеня 1942 году (гэта было першае ў гісторыі ГУЛАГу ўзброенае паўстанне. — **І.К.**). Вольныя ад дзяжурства ахоўнікі накіраваліся ў лазню. Як толькі дзверы за імі зачыніліся, паўстанцы, згодна з дакладна распрацаваным У.Піваваравым планам, разброілі стралка аховы, а потым, уварваўшыся ў казарму, і дзяжурнага.

Узброіўшыся, група зняволеных рушыла да лазні; стралкоў перавялі пад замок у гародніны склад.

Зону адкрылі. Паўстанцы пайшлі па бараках і пачалі агітаваць далучыцца да іх. Адчынілі харчовы і рэчавы склады. Усім паўстанцам выдалі новыя кажухі, валёнкі, бушлаты, штаны, рукавіцы. З гужавога транспарту быў арганізаваны абоз на васьмі фурманках.

Частка зняволеных, у асноўным непалітычныя, не паддаліся на ўгаворы ўдзельнічаць у паўстанні і разбегліся па кутах у зоне.

Тым часам у «Лесарэйдзе» з 141 чалавека, апранутага і абутага ў новае абмундзіраванне, канчаткова пагадзіліся на выступ 109. Яны рушылі на Усць-Усу.

Найперш напалі на будынак камеры папярэдняга зняволення. Паўстанцы вызвалілі 38 чалавек. 12 пагадзіліся да іх далучыцца. А ў гэты час другая група паўстанцаў падышла да пошты. Да вечара пошта апынулася ў іхных руках.



Яшчэ адна група спрабавала захапіць аэрадром, дзе ў гэты час знаходзіліся два самалёты. Але ахова сустрэла паўстанцаў агнём. Тыя мусілі адысці.

Свайго апагею бой дасягнуў у будынку міліцыі. Неслі страты і паўстанцы. Цудам праз радыёбюро праўлення параходства ў Сыктыўкар пайшла тэлеграма пра паўстанне. Узмацніўся бой за будынак міліцыі. Павялічылася колькасць яго абаронцаў: падышлі яшчэ 16 байцоў ваенізаванай аховы параходства. Страляніна не сціхала ні на хвіліну. Усё часцей акрываўленыя людзі сталі з'яўляцца і на парозе шпіталю.

...Дзень 24 студзеня быў блізкі да скону. Па поўначы на дапамогу ўсць-усінцам прыбылі 15 стралкоў з Поле-Кур'і. Перавага была на баку абаронцаў. Адчуўшы гэта, паўстанцы адступілі: на дзесяці фурманках рушылі ўверх па Пячоры. Адыход больш нагадваў уцёкі, і ў выніку гэтага большая частка паўстанцаў у розных канцах паселішча засталася пакінутая на волю лёсу. На наступны дзень усе паўстанцы, што засталіся жывыя, у саракаградусны мароз былі пастаўленыя перад будынкам міліцыі на калені. Было загадана трымаць рукі на патыліцы. Такім чынам яны мусілі дапаўзці да турмы.

Глыбокай ноччу 25 студзеня пра паўстанне стала вядома і ў наркамаце ўнутраных справаў Комі АССР. Адразу ж у кабінеце наркама С.Кабакова быў скліканы ўвесь оперсклад наркамату. На наступны дзень па загадзе наркамата ў Усць-Усе ўвялі камендантскую гадзіну. А ва ўсіх паселішчах басейну Пячоры на тэрыторыі рэспублікі былі арганізаваныя пасты назірання. Да прыкладу, у Абезі на гэтую справу мабілізавалі нават школьнікаў.

Надзвычай люты рэжым быў усталяваны і ў лагеры. Каб дачуцца сярод зняволеных нават шэпту, нават намёку пра паўстанне, была задзейнічана ўся лагерная агентурная сетка.

Але яшчэ доўга ў пячорскай тайзе знішчалі рэшткі асобных групаў паўстанцаў, якія працягвалі жорстка супраціўляцца. А пасля паразы пачалася крывавая расправа. Забівалі жывых і дабівалі параненых, не шкадуючы нікога. У.Піваварава і тых кіраўнікоў паўстання, хто застаўся жывы, прывезлі ў сыктыўкарскую турму НКВД. Цягам двух месяцаў ішло следства. 30 сакавіка 1942 году па пастанове Асобай нарады НКВД СССР 26 удзельнікаў паўстання, у тым ліку і У.Піваварава, расстралялі.

Мінулі гады... Жонка і дачка Уладзіміра Іванавіча мусілі перад вайной па вядомых прычынах з'ехаць з Беларусі на сталае месца жыхарства ў г.Волжскі Валгаградскай вобласці. Шмат разоў Яўгенія Іванаўна дасылала лісты на імя Сталіна, Калініна, Берыі з просьбай паведаміць, дзе знаходзіцца яе муж. Неадназовыя звароты ў ГУЛАГ таксама ніякага плёну не мелі.

Затое пасля кожнага звароту яе выклікалі ў МДБ, казалі: «Што вы хочаце, ваш муж — вораг народу», і прапаноўвалі аформіць развод.

У 1953 годзе, адразу пасля смерці Сталіна, яна зноў звярнулася ў пракуратуру з просьбай аб рэабілітацыі мужа.

25 снежня 1954 году справа аб абвінавачанні Піваварава Уладзіміра Іванавіча была разгледжаная Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суду СССР. Прысуд Ваеннай калегіі ад 29 траўня 1940 году ў адносінах да Піваварава У.І. па нанава раскрытых абставінах быў адменены, і справа за адсутнасцю складу зачынства закрытая (і ні слова пра прысуд Асобай нарады НКВД СССР ад 12 сакавіка 1942 году).

Пасля «перагляду» справы сям'я атрымала пасведчанне аб смерці, выдадзенае аддзелам ЗАГСу гораду Волжскага, дзе зазначалася, што Півавараў У.І. памёр 28 жніўня 1941 году ў веку 37 гадоў. У графе «прычына смерці» стаяла: памёр ад паралічу сэрца.

Улады хавалі праўду пра паўстанні ахвяраў сталінізму.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ**

МІЛІЦЫЯ

## Прафілактыка злачыннасці

УУС Брэсцкага аблвыканкаму мае намер распрацаваць рэгіянальную праграму прафілактыкі злачыннасці сярод насельніцтва. Пра гэта начальнік упраўлення Уладзімір Шафарэнка заявіў на калегіі УУС, якая прайшла 16 студзеня.

Як было адзначана, па выніках мінулага году ўзровень злачыннасці ў Брэсцкай вобласці самы нізкі ў краіне. Скарацілася колькасць цяжкіх, асабліва цяжкіх злачынстваў і забойстваў. Разам з тым узрасла колькасць выкраданняў аўтатранспарту — летась іх было ўчынена больш за 200. Толькі ў 53 выпадках устаноўлены выкрадальнікі. Падвергся крытыцы ўзровень раскрыцця злачынстваў па лініі крымінальнага вышуку і ўпраўлення па норавах і незаконным абароце наркотыкаў.

Начальнік УУС аблвыканкаму мае намер актывізаваць прафілактычную работу сярод насельніцтва. Мяркуецца, што яна будзе весціся ў цесным кантакце з Брэсцкай студыяй тэлебачання. Паводле інфармацыі прэс-сакратара УУС Віктара Васілеўскага, хутчэй за ўсё гэта будуць не толькі перадачы, але і сацыяльныя рэкламныя ролікі. Нагадаем, што апошнія два гады Уладзімір Шафарэнка працаваў прадстаўніком МУС у Польшчы, таму знаёмы з метадамі работы польскіх калег па прафілактыцы злачыннасці.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

ЗДАРОЎЕ

## Грып набліжаецца да эпідэмічнага парогу

*Эпідэмія грыпу, якую медыкі прагназуюць на канец студзеня—люты, будзе насіць больш інтэнсіўны характар, чым летась. Пра гэта 17 студзеня на прэс-канферэнцыі ў Мінску паведаміў галоўны эпідэміёлаг міністэрства аховы здароўя Беларусі Анатоль Кажамякін.*

Паводле яго словаў, мяркуецца, што эпідэмія будзе выклікана сератыпамі вірусаў грыпу А і В, якія сустракаліся раней. За першыя два тыдні студзеня з дыягназам «вострае рэспіраторнае захворванне» ў медыцынскія ўстановы краіны ўжо звярнуліся звыш 50 тысяч чалавек. Пры гэтым назіраецца рост захворвання ва ўсіх 18 кантрольных гарадах краіны. Аднак перавышэння эпідэмічнага парогу пакуль няма.

Як адзначыў галоўны эпідэміёлаг, у Беларусі створана сістэма мерапрыемстваў комплекснай абароны насельніцтва ад грыпу, якая ўключае, у прыватнасці, вакцынацыю. Так, для бясплатнай вакцынацыі групаў рызыкі міністэрства аховы здароўя закупіла 440 тысяч доз эфектыўнай вакцыны расійскай вытворчасці, запас якой быў вычарпаны ў снежні. Як адзначыў медык, прышчэпку супраць грыпу яшчэ можна зрабіць у камерцыйных медустановах. Аднак пры гэтым трэба памятаць, што на час выпрацоўкі імунітэту (7-15 дзён) неабходна праводзіць экстранную прафілактыку іншымі сродкамі (рэмантадын, інтэрферон, аксалінавая мазь).

Зараз, паводле словаў Кажамякіна, усе лячэбныя ўстановы краіны праводзяць падрыхтоўку шпітальнай базы, а ў паліклініках рыхтуюцца да прыёму вялікай колькасці хворых. Акрамя таго, на аптэчных складах ёсць дастатковы запас супрацьгрыпозных сродкаў.

Як падкрэсліў медык, падчас найбольш інтэнсіўнай эпідэміі ў Беларусі на грып хварэюць каля 10 працэнтаў насельніцтва, прычым 36-55 працэнтаў захварэлых складаюць дзеці да 15 гадоў. Паводле звестак афіцыйнай статыстыкі, у перыяд з 1995-га па 2001 год ад грыпу ў краіне памерлі 64 чалавекі. Эканамічная шкода ад грыпу і ВРЗ складае каля 85 працэнтаў агульнай шкоды, што прычыняюць інфекцыйныя захворванні.

**Вольга АСІПЕНКА**

## Як уцячы ад інфаркту

Медычная статыстыка няўмольная: найбольш людзей памірае ад захворванняў сардэчна-сасудзістай сістэмы. Ці можна «ўцячы» ад інфаркту? Дэкан факультэту дактарантуры, аспірантуры і клінічнай ардынатуры Беларускай медыцынскай акадэміі паслядыпломнай адукацыі, кандыдат медыцынскіх навук Леанід Фалевіч сцвярджае, што можна.

***— Чаму чалавечае сэрца часцей за другія органы зазнае розныя хваробы?***

— Таму, што сэрца здатна за суткі перакачаць да 7 тонаў крыві і працаваць пры гэтым без адпачынку. Што можа зраўнацца з сэрцам, калі яно, нават адпачываючы, выконвае працу па перамяшчэнні крыві з венаў да сэрца, выштурхоўвае кроў у аорту і артэрыі, забяспечваючы неабходным сілкаваннем усе органы і сістэмы чалавечага арганізму.

***— Да якой узроставай групы адносяцца вашыя пацыенты?***

— Асноўная катэгорыя пацыентаў – ад 20 гадоў і старэйшыя. Вельмі шмат людзей з павышаным артэрыяльным ціскам, ішэмічнай хваробай сэрца, празнымі парушэннямі рытму. Часам усё пачынаецца з няўстойлівага ціску, неўзабаве ўзнікае парушэнне рытму, атэрасклероз сасудаў (і не толькі сэрца), ішэмічная хвароба сэрца і інфаркт міякарду. Чым пазнейшы зварот, тым складанейшае лячэнне, яно менш эфектыўнае. Пры гэтым зніжаецца якасць і працяглясць жыцця. Пасля 40 гадоў наведванне кардыёлага раз на год без скаргаў з мэтаю прафілактыкі кажа пра культуру чалавека, пра яго стаўленне да сябе, да сваіх родных і блізкіх. Пагадзіцеся, здаровы чалавек лепш, чым хворы.

***— Вядома, што ў медыцыне «разбіраюцца» ўсе. Я ведаю нямала дам, якія ставяць адна адной дыягназ, раяць прымаць харчовыя дабаўкі.***

— Займацца самадзейнай дыягностыкай і лячэннем могуць толькі невукі. Бог з імі, з дабаўкамі: калі яны дарагія, то, як правіла, бясшкодныя. Але ж прызначаюць часам і лекавыя прэпараты, прычым моцныя. Вось гэта сапраўдная бяда для доктара – у такіх «грамацеяў» трэба лячыць ужо не адну хваробу, а дзве-тры ўскладненыя.

***— Ці часта Вам даводзіцца «пералечваць» такіх хворых?***

— Часцей, чым хацелася б. І не толькі пасля самадзейных дактароў, часам і пасля прафесіяналаў. Боль у грудной клетцы перадусім прымушае задумацца пра хваробу сэрца. І часта ў паліклініках, дзе час прыёму пацыента абмежаваны 12 хвілінамі, часам і пры адсутнасці кардыёлага, мае месца гіпердыягностыка. Гэта значыць, што пры наяўнасці зусім бяскрыўдных зменаў у сэрцы пацыенту ставяць зусім не бясшкодны дыягназ і прызначаюць моцныя лекі тады, калі досыць было б комплексу вітамінаў. Выпадкі поліпрагмазіі (прыём некалькіх лекаў, больш як 3–5 адначасова) здараюцца спрэс. А найчасцей гэтыя лекі не спалучаюцца або дублююць адно адно.

***— Ці праўда, што захворванні сардэчна-сасудзістай сістэмы «памаладзелі»?***

— На жаль, гэта так. Нават інфаркты сустракаюцца ў маладых людзей у веку 20–25 гадоў. Вельмі часта яны застаюцца не дыягнаставанымі, бо людзі не звяртаюцца ў пару да доктара. І толькі пасля таго, як хвароба жорстка заявіць аб сабе, гэта высвятляецца па рубцах на сэрцы.

***— Ці можна «ўцячы» ад інфаркту?***

— Можна яго пазбегнуць. На сардэчна-сасудзістыя захворванні ўплывае мноства фактараў. Чалавек не можа змяніць узрост, пол, спадчыннасць. Але ён можа палепшыць якасць свайго жыцця, ведаючы фактары рызыкі (курэнне, павышаны ўзровень халестэрыну ў крыві, павышаны артэрыяльны ціск, адмоўныя эмоцыі, малярухомы лад жыцця, гарманальныя парушэнні і інш.). Змяншаючы ўздзеянне фактараў рызыкі, чалавек можа ў значнай ступені пазбегнуць ранняга развіцця атэрасклерозу і, адпаведна, інфаркту міякарду.

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**



# Мілаш Якеш: Ні ў чым не саступіў

*Генеральны сакратар Цэнтральнага камітэту Камуністычнай партыі Чэхаславаччыны, вярхоўны камандзір Народнай міліцыі ЧССР, старшыня Рады бяспекі Мілаш Якеш быў без цырымоній выключаны з партыі ў снежні 1989 году. З тых часоў пра яго нічога не было чуваць.*



Сродкі масавай інфармацыі ўзгадалі пра Якеша ў снежні мінулага году, калі яго абвінавацілі ў здрадзе радзіме і змове супраць рэспублікі. Мілаш Якеш сёння прынцыпова не дае інтэрв'ю чэшскім СМІ. Парушае свой прынцып толькі для замежных журналістаў. Пры канцы мінулага году ён даў інтэрв'ю рэдактарцы славацкай газеты *SME*. Прапануем яго ўвазе чытача ў скарочаным варыянце.

***— Калі Вы вырашылі ўступіць у партыю?***

— Бацька да таго скіраваў. Ды і сам я спазнаў, што такое капіталізм. Пасля вайны ўсе спалітызаваліся, і я ў партыю ўступіў адразу, у траўні 1945-га.

***— Калі Вы вучыліся ў Маскве, Вашым аднакурснікам быў Аляксандр Дубчак. Якім Вы яго памятаеце з тых часоў?***

— Быў кампанейскі, займаўся спортам, добра ведаў расійскую мову, таму болей знаўся з савецкімі студэнтамі. Ужо тады ён любіў быць у цэнтры ўвагі, і гэта стала для яго лёсавызначальным. Ён марыў пра славу і ўсё для яе зрабіў бы. Хацеў ісці за людзьмі, якія яму тую славу маглі даць. Дубчаку яе далі правыя журналісты і правыя палітыкі.

***— Вы навучаліся ў Маскве з 1955 па 1958 год. У той час у СССР быў асуджаны культ асобы — яго выкрыў наступнік Сталіна Мікіта Хрушчоў. Якое ўражанне склалася пра яго?***

— Як пра стыхійнага чалавека, які на ўсё хутка рэагуе ды адразу мае на ўсё рэцэпт. Хрушчоў падрыхтаваў грунт для пачатку дэстабілізацыі сацыялізму. Да гэтага спрычыніліся рознагалоссі з Кітаем, а галоўнае – няўзважаны крок: крытыка мінулага на нечарговым з'ездзе. Гэта быў удар, пасля якога камунізм быў асуджаны.

***— А Брэжнеў?***

— Брэжнеў быў вельмі дабрадушны, вясёлы. Да таго ж разважны. Гэта ўжо пазней ім маніпулявалі іншыя, калі адбыўся злом у ягонай душы.

***— Вы лічыце, што можна было пазбегнуць уводзення войскаў у 1968-ым?***

— Можа так, можа і не. Гэта была справа Савецкага Саюзу, які страціў давер да тых, хто кіраваў, у тым ліку і да Дубчака. Дэ-факта кіраўніцтва Савецкага Саюзу падманулі, і таму яно баялася, што Чэхаславаччына можа выйсці з Варшаўскай дамовы, пакінуць сацыялістычны лагер. Было абвешчана, што нават цаной сусветнай вайны Чэхаславаччыны не аддадуць.

***— Цяпер, калі прайшоў час, Вы думаеце, што Саветы правільна вырашылі?***

— Правільна? Было б сапраўды правільна, калі б зрабілі наадварот, бо гэтым сваім рашэннем яны нарабілі вялікай шкоды ў свядомасці людзей. У нас узнікла антысавецкая істэрыя, якая да сёння не прайшла.

***— Калі і дзе Вы даведаліся, што ў рэспубліку ўвайшлі войскі?***

— Я быў на паседжанні прэзідыуму партыі. Прэм'ер-міністру Чэрніку праз тэлефон паведамілі, што савецкія войскі перайшлі мяжу. Я і сёння перакананы, што Дубчак і Чэрнік пра гэта ведалі раней і нічога не зрабілі.

***— Якая была атмасфера на паседжанні?***

— Я спытаў: «Што цяпер? Што будзем рабіць?» Прэзідыум прыняў адозву, у якой асудзіў увод войскаў. Я не галасаваў, бо не меў права голасу. Адозва нарабіла панікі і стала пачаткам вялікай антысавецкай кампаніі. Калі ж войскі ўвайшлі ў будынак Цэнтральнага камітэту, я быў з астатнімі ў кабінеце Дубчака. Адтуль выклікалі людзей па адным: Дубчака, Крэгла, Смркоўскага, Шпачка, і кожнага з іх затрымлівалі.

***— У звязку з акупацыяй Вы з Ёзафам Ленартам абвінавачаны ў здрадзе радзіме. Паводле абвінавачання Вы яе дапусцілі, бо 22 жніўня 1968 году рыхтавалі ў пасольстве СССР «рабоча-сялянскую» ўладу, якая мелася змяніць законную ўладу ЧССР і гэтым легалізаваць акупацыю. Што Вы думаеце пра абвінавачанне?***

— Гэта бязглуздзіца. Тады там дыскутавалі пра ўсё, што толькі можна. Па-першае, пра вызваленне ўсіх арыштаваных таварышаў. Калі гэта не ўдалося, хацелі аднавіць дзейнасць ураду, прэзідыуму нават без удзелу Дубчака, Чэрніка. Пасля дыскусіі трэба было паразмаўляць з прэзідэнтам рэспублікі пра магчымыя рашэнні. Прэзідэнт (Людвік Свабода. – *Пазн. рэд.*) казаў: «Паляцім у Маскву і вернем затрыманых». Так і было.

***— Дзесяцігоддзі Вы былі ў кіраўніцтве разам з Густавам Гусакам. Які ён быў?***

— Гусак быў рэалістам. Ён да смерці застаўся верным сацыялізму. Умеў ужываць усе сілавыя рычагі. Я паважаю яго і за тое, што ён не зламаўся, калі быў асуджаны як «нацыяналіст». Ён заставаўся заўсёды верны ідэалам.

***— Ці сумняваліся Вы калі ў слушнасці ідэй камунізму? Або Вы і цяпер думаеце, што сацыялізм – адзіны верны шлях?***

— Так. Тое, што зараз адбываецца, мяне толькі пераконвае: тое, што было, было правільна, насуперак усім недахопам і праблемам. Сучасны рэжым, капіталізм, жыве з таго, што распрадае ўсё, створанае за тыя 40 гадоў рукамі мільёнаў людзей. Мы мелі два мільярды даляраў запазычанасці за ўсёй ЧССР, і то выраўнанае нашымі актывамі. Сёння запазычанасць толькі Чэшскай Рэспублікі – 26 мільярдаў.

***— Ці не кажуць сённяшнія аналітыкі, што тыя 40 гадоў жылі ў доўг?***

— Гэта няпраўда. Калі б жылі ў доўг, то не было б сёння чаго прадаваць і красці.

***— Ці не думаеце Вы, што не хапала толькі рынкавай эканомікі?***

— Паступова яна стваралася. У нас былі кваліфікаваныя кадры, танная сыравіна. Не было гэтак, як сёння – бегаць, каб прадаць адзін лакаматыў – былі сотні лакаматываў, самалётаў, якія мы экспартавалі.

***— Вы кажаце, што сацыялізм быў лепшы. Чаму ж людзі на Захадзе жылі лепей?***

— Не ўсе, толькі некаторыя. Чаму? Таму што былі каланіяльнымі дзяржавамі! Смакталі з усяго свету. Францыі належала палова Афрыкі, Англіі – Індыя, Іспаніі – палова Амерыкі, там тады рабавалі! Пакралі ўсё, а індзейцаў выгналі. Нарэшце, нас рознымі спосабамі абкрадаюць і надалей.

***— З прыходам Міхаіла Гарбачова сувязі СССР з астатнімі сацыялістычнымі краінамі аслаблі. Падчас наведання Чэхаславаччыны ў 1987 годзе ён абвясціў, што савецкае кіраўніцтва не будзе ўмешвацца ва ўнутраныя партыйныя пытанні краін сацыялістычнага блоку. Ці не здаецца Вам, што чэхаславацкае камуністычнае кіраўніцтва засталося ў самоце?***

— Сёння зразумела, што Гарбачоў быў здраднікам стагоддзя! Ён сам гэта прызнаў на лекцыі ў турэцкай Анкары, дзе казаў, што ягонай мэтай было знішчэнне камунізму. Параза сацыялізму – справа здрады Гарбачова і ціску міжнародных варожых капіталістычных сіл. Дысідэнты і ўсе вакол іх былі, як пятае кола ў возе.

***— Ці ведалі Вы Гарбачова асабіста?***

— Мы часта з ім сустракаліся, абодва займаліся земляробствам. Спачатку я яго паважаў, але пазней яго пыха, прага славы і саступкі Амерыцы павялі яго ў іншы бок. Калі ён прыехаў да нас, то віталі яго ў асноўным дысідэнты. Калі ён прыязджаў у нейкую сацыялістычную дзяржаву, то дапамагаў яе развалу. З яго свяціла надзея для ўсіх непрыяцельскіх сіл. Ён хацеў тое ж зрабіць і ў Кітаі, але не ўдалося.

***— Ці можна параўноўваць становішча ў 89-ым і 68-ым?***

— Асноўным ініцыятарам у 68-ым была партыя. У 89-ым ініцыятарам быў заходні свет, Гарбачоў, дысідэнты і іншыя незадаволеныя ў нас. Важная дата – 26 лістапада, калі ў партыі пачаўся раскол. Шмат амбіцыйных людзей хацелі аб'яднацца з дысідэнтамі і разам з імі кіраваць. Гэта парушыла партыю і выбухнула нечарговым з'ездам у снежні 89-га, калі партыя падняла такую самакрытыку, што горш не мог зрабіць і найбольшы вораг.

***— На пачатку 1989 году партыйны прэзідыум выключыў Вас з партыі разам з Міраславам Штэпанам, прызнаўшы адказным за 17 лістапада. Як Вы сябе адчувалі: выключылі камуністы, свае?***

— Гэта былі ўжо тыя сілы ў партыі – Каніс, Вэйс, Адамец, Могарыт – якія думалі, што калі нас запляміць, то самі выратуюцца. Я адчуваў здраду і паразу. Бараніцца не выпадала, бо ніхто не хацеў публічнасці.

***— Ці хадзілі Вы калі-небудзь у касцёл, верылі ў Бога?***

— У нас ніхто ў касцёл не хадзіў. У касцёл я хадзіў толькі, калі было нешта «цікавае», напрыклад, Каляды. Калі вяселле ў кагосьці са сваякоў – дык іду. Я атэіст. Але паважаю тых, хто верыць.

**Lidovy Noviny, 11. 01. 2002**
**Пераклад: Ілля Глыбоўскі**

АФГАНІСТАН

## Уцёкі мулы

«З сваёй рэзідэнцыі ў Кандагары мула Амар паводле парады памочнікаў уцёк на рыкшы, потым перасеў у нейкі брудны грузавічок і знік. Некалькі наступных сутак ён правёў у падвалах – то аднаго, то другога дому». Так Кары Сахіб, былы асабісты шафёр правадыра талібаў, апісвае фінал палітычнае кар'еры гаспадара. Рэпарцёры часопісу «Ньюсуік» знайшлі гэтага чалавека ў рэстаране пакістанскага гораду Пешавар. Кары Сахіб ахвотна падзяляўся з імі невядомымі дагэтуль падрабязнасцямі жыцця мулы, якому верай і праўдай служыў тры гады.

Кары Сахіб назіраў, як паводзіў сябе мула Амар у першыя дні бамбёжак Кандагару. Вельмі доўга галоўны таліб з пагардаю адрынаў заклікі падначаленых, якія ўгаворвалі яго кінуць усё і ўцякаць. Яму казалі, што амерыканцы збіраюцца ўжыць хімічную зброю. Тады мула пачынаў горда дэманстраваць свой супрацьгаз, не слухаючы перасцярогаў, што ў ім ён пратрывае максімум гадзіну, а потым памрэ.

Але ўсё ж абставіны прымусілі мулу пакінуць рэзідэнцыю, прычым не на ваенным джыпе, а ў вазку рыкшы. У ягоным доме схаваліся ўзброеныя баевікі, побач размясціліся шэсць танкаў – адзіныя, якія засталіся ў талібаў. Калі пачалі падыходзіць спецназаўцы, танкі не паспелі адкрыць па іх агонь, як былі знішчаныя авіябомбамі.

Па словах Кары Сахіба, мула, які забараніў афганцам слухаць музыку і глядзець тэлевізар, увесь час напяваў куплет з афіцыйнай патрыятычнай песні: «Гэта наша радзіма, дом тыграў і ільвоў; гэта краіна высокіх гор і зялёных далін; але найгалоўнейшае – гэта зямля маджахедаў і святых мучанікаў; мы паб'ем усіх, хто нападзе на нас...»

ПАЛЕСТЫНА

## Ізраіль зруйнаваў радыёстанцыю

Ізраільскія войскі разбурылі радыёстанцыю «Голас Палестыны», размешчаную непадалёк ад гораду Рамалла на Заходнім беразе ракі Іардан. Усе супрацоўнікі былі загадзя эвакуяваныя.

Раніцою ізраільскія салдаты пад прыкрыццём бранятэхнікі ўсталявалі ў будынку радыёстанцыі выбуховыя прыстасаванні, з дапамогай якіх і падпалілі дом. Густы чорны дым сцелецца над горадам дагэтуль.

Ізраіль не раз абвінавачваў урад Ясіра Арафата ў выкарыстанні палестынскага тэлебачання і радые ў агітацыйных мэтах. Гучалі і папрокі на адрас палестынцаў, якія праз СМІ займаюцца антыізраільскай прапагандай і будзяць у душах моладзі нянавісць да ізраільцян. У снежні 2001 г. Ізраіль ужо спрабаваў знішчыць радыёстанцыю «Голас Палестыны», але яе перадачы не спыніліся: іх вялі праз дадатковыя перадатчыкі.

Афіцыйныя прадстаўнікі палестынскай адміністрацыі лічаць, што ізраільцяне спрабуюць разбурыць сімвалы палестынскай незалежнасці. Кіраўнік палестынскай службы бяспекі на Заходнім беразе ракі Іардан Джыбрыль Раджуб падкрэсліў, што цяперашнім ізраільскім уладам нестае «палітычных гарызонтаў». Ізраільскі бок ад каментароў адмовіўся.

Раней ізраільскія самалёты нанеслі ўдары па ўрадавых будынках у Тулькарме. У выніку штаб-кватэра палестынскіх сілаў бяспекі ператварылася ў кучу смецця. Былі параненыя 60 чалавек, загінуў палестынскі паліцыянт.

Усе гэтыя дзеянні – адказ Ізраілю на тэракт у Хадэры. Між тым, адміністрацыя Палестынскай аўтаноміі звярнулася да міжнародных праваахоўных арганізацыяў з просьбай падтрымаць іх пратэст у сувязі са знішчэннем Ізраілем «свабодных палестынскіх сродкаў масавай інфармацыі».



# Літва ў чаканні сяброўства ў ЕС

*Літва развіталася з Савецкім Саюзам амаль за два гады да яго распаду – 11 сакавіка 1990 году. А цяпер Літва збіраецца стаць сябрам Еўрапейскага Саюзу.*

Такая магчымасць адкрылася перад Літвой у снежні 1994 году. Еўрапейская нарада ў вярхах у Эссене (ФРГ) прыняла стратэгію падрыхтоўкі да ўступу ў Еўрасаюз (ЕС) дзяржаваў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Неўзабаве была падрыхтавана так званая Белая кніга, якая вызначала этапы падрыхтоўкі да сяброўства, прынцыпы стварэння ўнутранага рынку і неабходныя дзеля гэтага прававыя акты.

Літва наважыла завяршыць перамовы з Еўрасаюзам у 2002 годзе, а праз пару гадоў быць гатовай узяць на сябе членскія абавязацельствы.

Такая перспектыва выглядае вельмі рэальнаю. Нядаўна Еўракамісія (яна дбае аб прыняцці новых сябраў у ЕС) прызнала, што бюджэт Еўрасаюзу цалкам дастатковы, каб прыняць у гэтую арганізацыю 10 новых сябраў. Важна толькі, каб яны да гэтага падрыхтаваліся. Наколькі ўдаецца падрыхтоўка Літве?

Галава МЗСу балтыйскай рэспублікі Антанас Валёніс, які ачольвае дэлегацыі краіны на перамовах аб уступе Вільнюса ў ЕС і *NATO*, якраз напярэдадні 2002 году заявіў журналістам: ён «гатовы ісці ў заклад, што Літва сваіх стратэгічных мэтаў даб'ецца і ў 2002 годзе будзе запрошаная ў альянс, а ў 2005 годзе – у ЕС». Уключыўшыся ў перамовы пазней за іншыя дзяржавы (сярод іх – Эстонія і Польшча), Літва хутка дагнала іх. З прадугледжанага 31 перамоўнага патрабавання яна атрымала «залікі» ўжо па 22 пунктах.

Паводле сцверджання галоўнага прадстаўніка краіны на перамовах з ЕС Аўштравічуса, «Літва ўступіла ў апошні этап перамоваў, і цяперашні год для яе будзе самым важным, бо будуць вырашаць пытанні, якія прадвызначаць фінансавую дапамогу Еўрасаюзу Літве». Адзін пакет такой дапамогі на 2002 год Літва ўжо атрымала. Гэта 130 млн. літаў (32,5 млн. даляраў ЗША) на так званыя «інстытуцыйныя рэформы». Напрыклад, 12 млн. літаў з гэтае сумы атрымана на арганізацыю кляймення жывёлы паводле еўрапейскіх стандартаў.

У найбліжэйшы час Літва будзе дамагацца паспяховага завяршэння перамоваў па раздзелах транспарту, кантролю за фінансамі, падаткаў, правасуддзя і ўнутраных справаў. Гэта параўнаўча складаныя пункты перамоваў, і ўсім дзяржаўным структурам давядзецца сур'ёзна папрацаваць. Некаторыя з гэтых пунктаў ужо цяпер жорстка крытыкуюцца насельніцтвам, асобнымі палітыкамі і прадпрымальнікамі. У літоўскім грамадстве гучаць пытанні: чаму ўлада стараецца акцызы на паліва, алкаголь і тытунёвыя вырабы зрабіць гэткімі ж, як і ў краінах ЕС, але пры гэтым не павышае заробкаў людзей да еўрапейскага ўзроўню.

Таму ідэя аднаго з лідэраў сацыял-дэмакратаў, У.Андрукайціса, правесці сёлета адначасова з прэзідэнцкімі выбарамі і рэферэндум аб сяброўстве Літвы ў ЕС не здабыла падтрымкі. Існуе боязь, што ён можа быць прайграны: людзі яшчэ не даспелі да ідэі вялікага аб'яднання. Яны могуць не ўхваляць гэтага з меркаванняў матэрыяльнай выгады.

**Уладас БУРБУЛІС**

# «Святыя войны» — запал і розум

**Умберта ЭКА**

*Калі хто-небудзь апошнім часам прамаўляў недарэчныя словы пра перавагу заходняй культуры — гэта не так важна. Не так важна, што нехта прамаўляе правільныя словы, але ў недарэчны момант, не вельмі важна і тое, што нехта можа памыляцца. Свет повен людзей, якія ўхваляюць няправільныя і памылковыя словы. А важна (і вось гэта павінна непакоіць усіх — палітыкаў, рэлігійных дзеячаў, працаўнікоў сферы адукацыі), што некаторыя выразы ці нават цэлыя артыкулы прызнаюцца справядлівымі, становяцца тэмай абмеркавання, займаюць думкі моладзі і прымушаюць рабіць высновы, прадыктаваныя эмацыйнымі рэакцыямі. Я непакоюся менавіта пра моладзь, бо свядомасці старэйшага пакалення ўжо не змяніць.*



Усе рэлігійныя войны, якія стагоддзямі залівалі крывёй увесь свет, нараджаліся дзякуючы менавіта падобным афектам і прымітыўным процістаўленням, такім, прыкладам, як «мы» і «іншыя», добрыя і злыя, белыя і чорныя. І вялікая заслуга заходняй культуры ў тым, што яна заўжды намагалася адысці ад гэтакага спрошчанага погляду на рэчы і з'явы. Хоць, вядома, часткай заходняй культуры быў і Гітлер, які паліў кнігі, знішчаў творы мастацтва, забіваў людзей, якія належалі да «ніжэйшых», на ягоную думку, расаў.

Аднак ёсць і лепшыя аспекты нашай культуры. Самае галоўнае — гэта ўсведамленне сваёй прыналежнасці да пэўных культурных каранёў, а таксама ўсведамленне таго, што гэтыя культурныя карані бываюць розныя, і ў іншых яны іншыя.

Захад – магчыма, па матывах эканамічнай экспансіі – заўжды цікавіўся іншымі цывілізацыямі. Бывала, з агідай іх знішчаў. Грэкі называлі варварамі (значыць «заікамі») тых, хто не размаўляў на іхнай мове. Але больш сталыя грэкі, як, напрыклад, стоікі, даволі хутка прыкмецілі, што варвары проста выкарыстоўваюць іншыя словы для акрэслення тых самых паняццяў і такіх самых думак.

Пачынаючы з сярэдзіны XIX стагоддзя культурная антрапалогія рабіла спробы загладзіць віну Захаду ў стаўленні да «іншых», асабліва да тых «іншых», якія спачатку лічыліся дзікімі і прымітыўнымі, успрымаліся як «народы без гістарычных каранёў». І з гэтымі «дзікунамі» Захад абышоўся не надта мякка: ён іх «адкрыў», паспрабаваў евангелізаваць, шмат каго парабаціў. І перад культурным антрапалагам паўстала задача растлумачыць, што побач з «нашым» існуе і «іншае» мысленне, якое адрозніваецца ад заходняга, але, тым не менш, павінна ўспрымацца сур'ёзна, без агіды і рэпрэсій.

Дзеля таго, каб ацаніць адну культуру вышэй за іншую, неабходна знайсці крытэрыі ацэнкі. Апісаць іншую культуру можна дастаткова «нейтральна». А вось крытэрыі яе ацэнкі залежаць ад нашых уласных каранёў, ад густу, звычак, сістэмы каштоўнасцяў. Напрыклад, мы мяркуем, што тэхналагічны прагрэс, пашырэнне гандлёвых сувязяў, павышэнне хуткасці транспарту – гэта добра, а значыць, мае каштоўнасць. Вельмі многія думаюць так, і з гэтага гледзішча яны маюць права прызнаваць найлепшай нашу высокатэхналагічную цывілізацыю. Але ў тым жа заходнім свеце жывуць і тыя, хто лічыць найвышэйшай каштоўнасцю жыццё ў гармоніі з прыродай, і хто гатовы адмовіцца ад аўтамабіляў і самалётаў, халадзільнікаў і тэлевізараў, хадзіць пешшу дзеля захавання экалагічнай чысціні. Такім чынам, каб вызначыць, што адна культура лепш за іншую, неабходна зрабіць спасылку на пэўную сістэму каштоўнасцяў. Толькі ў гэтым выпадку мы можам сказаць, што наша цывілізацыя для нас найлепшая.

Напрыклад, прыхільнікі дыялогу абараняюць ісламскі свет, нагадваючы, што іспанскія арабы зрабілі вялізны ўклад у геаграфію, астраномію, матэматыку і медыцыну ў той час, калі хрысціянскі свет быў яшчэ вельмі адсталы ў навуцы. Цяпер на любога чалавека ці на любую з'яву можна паглядзець з розных бакоў — і гэта адзін з самых пахвальных момантаў у заходняй культуры (свабоднай і плюралістычнай). Так, напрыклад, прызнаецца дабром падаўжэнне жыцця, а шкодай – забруджанне акаляючага асяроддзя. Але мы лёгка можам уявіць, што буйныя інстытуты, якія займаюцца распрацоўкамі тэхналогіяў і прэпаратаў, што падаўжаюць жыццё чалавека, спажываюць шмат электраэнергіі, а энергетычныя станцыі, у сваю чаргу, забруджваюць навакольнае асяроддзе. Заходняя культура набыла здольнасць адкрыта агаляць свае сярэдзінныя супярэчнасці.

І менавіта гэтая крытыка крытэрыяў, якую Захад ухваляе, і дае зразумець, наколькі праблема шкалы каштоўнасцяў тонкая і далікатная. Гэтыя цяжкасці выяўляюцца, калі прадстаўнік іншай культуры (гэта значыць іншай сістэмы каштоўнасцяў) прыязджае да нас. Бо насамрэч расізм узнікае менавіта тады, калі мы сутыкаемся з чужароднай культурай у нас дома. Што б мы зрабілі з людаедам з Новай Гвінеі (дапусцім, што такія яшчэ засталіся), які эміграваў бы на Захад і адчуваў патрэбу з'ядаць па аднным чалавеку кожную нядзелю? Тут усе мы пагодзімся, што яго трэба адправіць за краты. Але што рабіць, напрыклад, з патрабаваннем мусульманак дазволіць ім не здымаць паранджы, калі яны фатаграфуюцца на пашпарт?

Захад прыклаў шмат намаганняў і выдаткаваў вялікія сродкі, каб вывучыць звычаі і лад жыцця «іншых», але ніхто не парадзіў «іншым» вывучыць звычаі і лад жыцця на Захадзе. Ці шмат антраполагаў з Кітаю ці Афрыкі прыехалі на Захад, каб вывучыць нашу культуру і распавесці пра яе не толькі сваім суграмадзянам, але і нам самім: распавесці пра тое, якімі яны нас бачаць? Уявіце сабе, што ісламскія фундаменталісты запрошаныя да нас наведваць курсы фундаменталізму хрысціянскага (маю на ўвазе тых, хто да сёння змагаецца, каб выкінуць са школьных падручнікаў любы намёк на тэорыю эвалюцыі Дарвіна). Я лічу, што вывучэнне фундаменталізму іншых культур з антрапалагічнага гледзішча магло б дапамагчы зразумець прыроду ўласнага фундаменталізму. Няхай бы яны прыехалі вывучаць нашыя ўяўленні аб святой вайне, тады, магчыма, яны паглядзелі б больш крытычна на ўласныя ідэі.

Адна з каштоўнасцяў нашай заходняй культуры палягае ў спробе прызнаць розніцу паміж людзьмі і прыняць яе. Тэарэтычна лічыцца цалкам нармальным і паліткарэктным на людзях сказаць пра чалавека, напрыклад, што ён гомасексуаліст. Але потым дома, пасміхаючыся, называць яго вычварэнцам. І як жа тады навучыцца прымаць адрознае?

Цярпімасць да адрозненняў, безумоўна, — гэта адна з тых каштоўнасцяў, якая не павінна аспрэчвацца. Мы лічым нашу культуру, якая навучылася быць талерантнай, — сталай, а тыя культуры, якія не прызнаюць цярпімасці, — варварскімі. Мы спадзяемся, што таксама як у нас існуюць мячэці, стане магчымым існаванне хрысціянскіх храмаў у арабскіх краінах, і не будуць больш абстрэльвацца статуі Буды.

**La Repubblica, Італія**

МУЗЫКА

# Выстава персанажаў пекінскай оперы

Выстава «Персанажы пекінскай оперы» адкрылася 18 студзеня ў Мінску ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі. Арганізавана яна пры садзейнічанні пасольства КНР у Беларусі да дзесяцігоддзя ўсталявання дыпламатычных адносінаў паміж Кітаем і Беларуссю. На адкрыцці выставы прысутнічалі прадстаўнікі міністэрства культуры Беларусі і акрэдытаваных у Беларусі дыпламатычных місій.

Пекінская опера — сінтэтычны жанр кітайскага нацыянальнага мастацтва. Ён уключае музыку, спевы, рэчытатыў, танец, а таксама элементы выяўленчага і баявога мастацтва. Пекінская опера бярэ свой пачатак у 30-х гадах 19-га стагоддзя. Большая частка яе рэпертуару грунтуецца на народных казках, міфах, легендах і вядомых літаратурных творах. Выстава створана Студыяй фігур пекінскай оперы горада Цяньціня па даручэнні міністэрства культуры Кітая. У экспазіцыі прадстаўлены 60 фігур, якія адлюстроўваюць вобразы і характары герояў пекінскай оперы. Яны прадстаўляюць гледачу сцэны з 37 класічных спектакляў.

Выстава ўжо дэманстравалася ў Польшчы, Чэхіі і Румыніі. У Мінску яна будзе экспанавацца да 18 лютага.

Прадстаўляючы экспазіцыю, пасол КНР у Беларусі У Сяоцю адзначыла, што выстава грунтуецца на традыцыйным рэпертуары пекінскай оперы. Гісторыі, пра якія распавядаецца, адносяцца да імператарскіх дынастый двух-трохтысячагадовай даўніны і ўзыходзяць да часоў утварэння старажытнай культуры Кітая. Паводле словаў У Сяоцю, маскі пекінскай оперы – адзін з галоўных умоўных прыёмаў выканання. Іх розны колер і ўзор паказваюць унутраны свет і характар герояў.

Намеснік міністра культуры Беларусі Валерый Гедройц сказаў: «Прыемна, што пасольства КНР шмат робіць для таго, каб пазнаёміць беларусаў з культурнымі традыцыямі і мастацтвам Кітая, якія налічваюць шмат стагоддзяў».

Цяперашняя выстава — трэцяя, што праходзіць у Нацыянальным музеі гісторыі і культуры ў рамках беларуска-кітайскага культурнага супрацоўніцтва. Папярэднія былі прысвечаны 50-годдзю КНР і мастацтву разьбы па дрэве і косці.

Перад адкрыццём выставы спадарыня У Сяоцю перадала ў дар музею некалькі прадметаў кітайскага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**Ірына САЗАНОВІЧ, БелаПАН**

СУВЯЗЬ

# Без мабільнага тэлефону мы пачуваемся пакінутымі

Званкі мабільных тэлефонаў стануцца саўнд-трэкам дваццаць першага стагоддзя. Нашчадкі будуць пазнаваць нас па нашых «Нокіях» і «Маторолах». Пра нас будуць меркаваць па запісаных паведамленнях, *SMS* і перамовах.

11 верасня: «Я... заўсёды буду кахаць цябе». Наступнікі, як і мы, будуць слухаць гэтыя жахлівыя званкі праз мабільнікі з захопленых самалётаў. Апошнія словы ахвяраў, што з цяжкасцю прарываліся праз 500 міляў, будуць трывала гучаць у эфіры ў якасці ілюстрацый да вайны з тэрарызмам.

У саўнд-трэкі патрапяць і іншыя размовы. Напрыклад, крык хлопчыка, які тоне, таго, што на мінулым тыдні клікаў па дапамогу, калі прыбой аднёсу у мора яго і ягонага бацьку ў затоцы Моркам, што ў Камбрыі (паўночны ўсход Англіі, Ірландскае мора). «З бацькам усё добра», — сказаў дзевяцігадовы хлопчык выратавальнікам. Але калі выратавальнікі даплылі да месца, яны знайшлі ўжо нежывыя целы.

Нядаўна ў Паўднёва-кітайскім моры выбавілі жанчыну ад піратаў – тыя захапілі карабель, дзе яна плыла. Выратавальнікі паспелі адрэагаваць на яе кліч аб дапамозе.

Удзельнік гульні «Хто хоча стаць мільянерам» быццам бы махляваў, дамовіўшыся з членамі аўдыторыі, якія падказвалі яму слушныя адказы з дапамогай мабільных тэлефонаў.

Вось так мабільнік здольны звязваць людзей у драматычных сітуацыях, і гэта надзяляе яго неверагодным эмацыйным зарадам. Уваходзячы ў будучыню, ты адчуваеш, што твой «Эрыксан» – гэта твая страхоўка ад забыцця, твая надзея на выпадак бяды замест малітвы і абраза.

Магчыма, гэта тлумачыць, чаму ў мінулым годзе было скрадзена 700 000 мабільных тэлефонаў і чаму апошнія даследаванні такіх крадзяжоў паказалі, што за два гады іх колькасць вырасла на 500%. За скрадзены тэлефон не атрымаеш і пятнаццаці даляраў на чорным рынку, але цягам некалькіх гадзін ці нават дзён, пакуль ахвяра не паспее адлучыць тэлефона – бо прамысловасць не жадае плаціць за тэхналогіі, што дазваляюць імгненна дэактываваць скрадзены апарат, – злодзей можа цешыцца, дэманструючы модную цацку.

Ёсць показка пра пасажыра цягніка, які голасна і бесперапынна балбатаў праз мабільны тэлефон. Насупраць яго сядзела цяжарная жанчына. Яна пачала стагнаць ад болю. Муж папрасіў уладальніка тэлефону дазволіць яму патэлефанаваць. «Ён не сапраўдны», — прыйшлося прызнацца прысаромленаму пасажыру. Аказалася, што ўвесь гэты час ён размаўляў з батончыкам шакаладу. Дзіўна? Так. Аднак гэта паказвае, што ў наш час тэлефон – сімвал запатрабаванасці, калі не сімвал поспеху. Калі маеш мабільны тэлефон, значыць – карыстаешся попытам: табе тэлефануюць, каб пачуць параду, словы падтрымкі, пасмяяцца ці папрасіць прабачэння. Нехта шукае цябе.

Усяго колькі гадоў таму мабільны тэлефон быў забаўкаю камерсанта ці ўваходзіў у набор першай дапамогі для доктара. Усім астатнім хапала звычайных тэлефонаў, факсаў і электроннай пошты. Цяпер гэтыя сродкі сувязі падаюцца нам не нашмат больш карыснымі за вясковага пісара.

Ратавальнік жыцця, сімвал статусу, прадмет гісторыі, – мабільнік цудоўна падыходзіць да нашага тлумнага часу, бо вы папросту не можаце сабе дазволіць, каб вас захапілі ў закладнікі, каб вы апынуліся на бязлюднай выспе або трапілі ў пастку – без яго.

**Крысціна ОДАЎН**
**The Observer**

# Тэорыя еўрапейскага грамадзянства

**Юліян НІДА-РУМЕЛІН, прафесар філасофіі Гетынгенскага універсітэту, міністр ФРГ па справах культуры і СМІ**

*Ёсць нешта трагічнае ў тым, як развіваецца цяпер Еўропа. Марш дэмакратыі па ўсім кантыненце і ўтварэнне адзінага рынку на большай частцы Еўропы спарадзілі небывалую стабільнасць, бяспеку і росквіт.*

Тым не менш здатнасць еўрапейскіх інстытутаў здзейсніць глыбейшую і шырэйшую інтэграцыю ўсё больш падрываецца жывучасцю супярэчлівага ідэалу дзяржавы-нацыі як асновы палітычнай законнасці і суверэнітэту. Гэта адбываецца збольшага з-за таго, што ідэю агульнаеўрапейскага грамадзянства часта ўспрымаюць праз аналогію з ідэяй нацыянальнага грамадзянства, і таму працэс далейшай інтэграцыі Еўропы выклікае такую вялікую боязь і супраціў.

Дзяржава-нацыя ў традыцыйным разуменні стварала грамадзянства як нешта канкурэнтнае супольнасцям, што прыходзілі ў заняпад. Венецыянцы сталі італьянцамі, баварцы сталі немцамі і г.д. Творцы нацыяў па ўсёй Еўропе спрыялі – з розным поспехам, вядома – узнікненню дамінуючай культуры, афіцыйнай мовы і зборнага наймення, якія ствараліся часткова на аснове адрозненняў ад суседніх дзяржаваў, народаў і культураў. Нацыянальныя меншыні паўсюль сутыкаліся з выгнаннем або вельмі моцным афіцыйным прымусам да асіміляцыі.

У гэтым сэнсе рамкі еўрапейскай дзяржавы-нацыі былі непрыдатныя нават для першапачатковых шасці сябраў Еўрапейскае Супольнасці – усе яны былі высокаразвітымі прамысловымі краінамі з падобнымі сацыяльнымі і палітычнымі традыцыямі і інстытутамі. Для цяперашніх 15 сябраў Еўрасаюзу гэтыя рамкі пагатоў не пасуюць, а далейшае яго пашырэнне азначае, што мноства супольнасцяў, культураў, моваў, рэлігіяў і светапоглядаў, якія ўваходзяць у Еўрасаюз, павялічыцца яшчэ больш. Адзіны «народ», які вызначае грамадзянства ў традыцыйнай дзяржаве-нацыі, можна стварыць, толькі ўрынуўшы Еўропу ў жахлівую паласу гвалту і войнаў.

Апытанні грамадскае думкі паказваюць, што нават у многіх краінах-кандыдатах падтрымка сяброўства ў Еўрасаюзе імкліва падае. Палітычныя лідэры, такія, як Вацлаў Клаўс у Чэшскай Рэспубліцы і Віктар Орбан у Венгрыі, вітаюць агульны рынак, але цвердзяць, што іх дзяржавы-нацыі не дзеля таго вярнулі сабе *дэ-факта* незалежнасць ад Масквы, каб *дэ-юрэ* трапіць у залежнасць ад Брусэлю.

Аднак прынцып вольнага перамяшчэння тавараў і паслуг, працы, капіталу і ідэяў («чатыры свабоды» адзінага рынку) робіць недарэчным многае з таго, што традыцыйныя еўрапейскія дзяржавы-нацыі рабілі дзеля абароны гэтах свабод у межах меншых тэрыторыяў. Пасля таго як агульныя межы краін-сябраў Еўрасаюзу ператварыліся ў чыста адміністрацыйныя, гэтым пачалі займацца інстытуты, якія валодаюць вялізнай пераважнай уладай над дзяржавамі-ўдзельнікамі. Таму належыць знайсці альтэрнатыўнае азначэнне грамадзянства.

Канцэпцыя грамадзянства ў яе асноўных і мінімальных патрабаваннях надзённа патрэбная там, дзе паляк і шведка могуць закахацца адно ў аднаго падчас навучання ў Іспаніі, пачаць сваю кар'еру ў Нямеччыне і нарэшце атайбавацца ў Італіі. Супольнае грамадзянства не патрабуе супольных формаў жыцця, супольных жыццёвых каштоўнасцей або супольнай гістарычнай мінуўшчыны.

Калі вы маеце розум, то можаце з пэўнай верагоднасцю аказацца чальцом якой-небудзь культурнай меншыні. Пры гэтым відавочна, што вы не станеце выбіраць правілаў, згодна з якімі грамадзянства вызначаецца паводле прыналежнасці да пэўнай культурнай супольнасці. Наадварот, вы будзеце імкнуцца застрахаваць сябе, уводзячы гарантыі таго, каб грамадзянства ўключала ў сябе падтрыманыя сістэмай законаў правы асобы на ўдзел у калектыўных праектах.

Пры такім разуменні грамадзянства палітычны суверэнітэт і законнасць бачацца як прыкметы інстытутаў, якія спрыяюць *добраахвотнаму* сацыяльнаму супрацоўніцтву, праводзячы дзеля гэтага ў жыццё правілы ўзаемадзеяння, якія ўсімі ўспрымаюцца як справядлівыя. Калі б дзеля таго, каб забяспечыць згоду, досыць было прымусу, то дэмакратычная законнасць была б непатрэбная.

Добра распрацаваная канцэпцыя дэмакратычнага грамадзянства заўсёды будзе рабіць упор на правы асобы. Грамадзянства ўтвараецца не групамі, а індывідуумамі, якія ўзаемадзейнічаюць *як грамадзяне*, прычым кожны з іх мае свае ўласныя інтарэсы і мэты.

# Украінская дыяспара ў Беларусі

Напярэдадні праваслаўнага свята Хрышчэння, вечарам 18 студзеня, у Беларускім таварыстве дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі ў Мінску адбыўся канцэрт украінскіх выканаўцаў — фальклорнага ансамбля «Старая скрыня» з горада Луцка Валынскай вобласці і кабзараліръка з Чарнігаўскай вобласці Васіля Нячэпы. Канцэрт быў арганізаваны пасольствам Украіны і грамадскімі аб'яднаннямі ўкраінцаў у Беларусі і прысвечаны 10-годдзю дыпламатычных адносінаў паміж Украінай і Беларуссю, а таксама Дню сабornасці Украіны, які адзначаецца 22 студзеня.



Фота IREX/ProMedia

Як паведаміла БелаПАНу прэзідэнт Цэнтру ўкраінскай культуры «Січ» у Беларусі Валянціна Лагвін, у краіне існуюць пяць грамадскіх аб'яднанняў этнічных украінцаў. Іх прадстаўнікі ўваходзяць у каардынацыйную раду, якая дзейнічае пры пасольстве Украіны. Цяперашнім часам завяршаецца падрыхтоўка да стварэння аб'яднання грамадскіх арганізацый украінцаў у Беларусі.

Прадстаўнікі украінскай дыяспары, паводле словаў Валянціны Лагвін, удзельнічаюць у многіх культурных акцыях, што праводзяцца ў Беларусі. Напрыклад, пасольства Украіны і ўкраінскія арганізацыі прапанавалі абвясціць 2002 год у Беларусі «годам Шаўчэнкі». Да дня нараджэння вялікага кабзара ў сакавіку плануецца правесці ў Мінску 6-ы фестываль мастацтваў украінцаў Беларусі, на які збяруцца прадстаўнікі розных жанраў мастацтва з усіх абласцей краіны. Запланаваны таксама фестываль украінскіх фільмаў, выставы мастацкіх твораў і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і іншыя цікавыя акцыі.

Усяго, паводле словаў Валянціны Лагвін, на працягу гэтага году мяркуецца правесці каля 30 мерапрыемстваў.

**Ірына САЗАНОВІЧ**

# Новыя біязаказнікі

У Мінскай вобласці, у адпаведнасці з пастановай ураду, створаны тры рэспубліканскія біялагічныя заказнікі — «Валмянскі», «Глебаўка» і «Сціклева».

У склад заказніка «Валмянскі» ўвайшлі землі Валмянскага лясніцтва дзяржаўнай лесагаспадарчай установы «Смалявіцкі ляsгас»(Смалявіцкі раён) плошчай 614,5 гектара. Тэрыторыя Каладзішчанскага лясніцтва прадпрыемства «Мінская лесапаркавая гаспадарка» (Мінскі раён) плошчай 964 гектары абвешчана заказнікам «Глебаўка». Землі ляснога фонду Гарадскога лясніцтва прадпрыемства «Мінская лесапаркавая гаспадарка» (Мінскі раён) плошчай 412 гектараў уключаны ў заказнік «Сціклева».

Пры гэтым заказнік «Валмянскі» перадаецца ў кіраванне Камітэту лясной гаспадаркі пры Савеце міністраў, а «Глебаўка» і «Сціклева» — Мінскаму гарвыканкаму.

Каментуючы гэтую пастанову БелаПАНу, начальнік аддзелу запаведнай справы міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Андрэй Галдзянкоў зазначыў, што новыя заказнікі створаны па прапанове вучоных. На іх думку, каштоўныя прыродныя комплексы вакол Мінску падлягаюць асаблівай ахове.

Галдзянкоў таксама паведаміў, што сёлета плануюцца працы па стварэнні рэспубліканскіх заказнікаў «Налібоцкі» (на тэрыторыі Валожынскага і Стаўбцоўскага раёнаў Мінскай вобласці, а таксама Іўеўскага і Навагрудскага раёнаў Гродзенскай вобласці) і «Арэхаўскі» (Маларыцкі раён Брэсцкай вобласці). Апрача гэтага, сёлета мяркуецца падрыхтаваць дакументацыю па стварэнні нацыянальнага парку «Белая Русь» у Лагойскім раёне Мінскай вобласці. Гэты парк плошчай 25 тысяч гектараў, куды ўвойдзе мемарыяльны комплекс «Хатынь», магчыма, будзе арганізаваны ў 2003 годзе.

**БелаПАН**

# Алімпійскі пыл

*Шэры будынак па вуліцы Даўмана, 23 у Мінску. Шыльда — «Спартовы комплекс «Дынама». У ягоных залах выгадаваліся чатыры алімпійскія чэмпіёны, тут займаюцца дзеці са спартовай дзіцяча-падлеткавай школы алімпійскага рэзерву, трэніруюцца нацыянальныя каманды Беларусі па фехтаванні, мастацкай гімнастыцы, лёгкай атлетыцы. Аднак да свайго 25-годдзя, якое ўжо не за гарамі, спартовы комплекс так і не заслужыў капітальнага рамонту і нават прыбіральшчыц. Смецце, цяжкае, пыльнае паветра, адсутнасць душу – у такіх умовах сёння вымушана гадавацца маладое пакаленне будучых беларускіх алімпійцаў.*

Спартовы комплекс «Дынама» быў узведзены на беразе Камсамольскага возера ў 1978 годзе, адкрываў яго яшчэ Пётр Машэраў. На той час ён стаўся унікальным спартовым збудаваннем у нашай краіне, бо ўпершыню адпавядаў усім лёгкаатлетычным нормам. Менавіта тут была пабудавана першая 200-метровая бегавая дарожка, што зрабіла магчымым праводзіць зімовыя спаборніцтвы згодна з існымі правіламі.

Яшчэ на падыходзе да будынку заўважаю плакат, які паведамляе, што па выхадных у спорткомплексе ладзяцца кніжныя кірмашы. З'ява для спартовых і культурніцкіх збудаванняў звычайная. Гэта так званая гаспадарчая дзейнасць, на якой трымаюцца заробкі супрацоўнікаў гэтых установаў. Усярэдзіне будынку, нягледзячы на будні дзень, паўсюдна адчуваецца часовая прысутнасць у ім прадпрымальнікаў. Драўляныя шчыты, з якіх яны ладзяць імправізаваныя сталы на бегавых бар'ерах, скінутыя ў гурбы і цягам усяго тыдня ляжаць за бар'ерам лёгкаатлетычнага манежу — якраз там, дзе спартоўцы мусяць размінацца перад заняткамі. Гандлюючы бізнесоўцы на самім манежы, таму сцены ў вузкіх праходах — у глыбокіх падзёрах ад калясак, на якіх тыя перавозяць свой тавар. У скокавыя ямы з пяском скідаюцца недапалкі ад цыгарэтаў.

Аднак адмовіцца ад здачы ў арэнду сваіх плошчаў спартоваму комплексу нельга, бо, апроч грошай на заробкі, ён пазбавіцца яшчэ і адзінага вольготнага прыбірання манежу пасля сканчэння кірмашу, якое аплачваюць тыя ж гандляры.

Сваіх прыбіральшчыц спорткомплекс «Дынама» ўтрымліваць не можа, за 30 тысяч няма жадаючых працаваць. Апошні раз тут прыбіралі паўтара-два гады таму, перад тым як сышла апошняя прыбіральшчыца. З тае пары смецціць ніхто не выкідаў, вокны не мыў і пыл не выціраў.

Мабыць, самае бруднае і запыленае месца ва ўсім комплексе — гэта балкон для гледачоў над манежам. Людзі, акрамя каманды акадэмічнай грэблі, туды падымаюцца рэдка, таму слой пылу на балконе самы тоўсты і шэры. Адзін неасцярожны рух — і ты запэцкаўся. Уздоўж сценаў валяюцца пакрытыя пылам бутэлькі, пачкі ад цыгарэт, папера. Веславальшчыкі праводзяць тут свае трэніроўкі, калі не дварэ маразы. На іхнай базе дагэтуль няма ацяплення.

Вось ўслед за бегуном на дарожцы ўзняліся клубы пылу. Пасля скокаў пясок разлятаецца вакол ямы, а потым разносіцца па ўсім манежы. А гэта толькі пачатак аўторка, вільготная ўборка пасля гандляроў была ўсяго пару дзён таму. Не цяжка ўявіць, што тут будзе ў канцы тыдня.

Трэці год спартоўцы не маюць магчымасці прыняць душ пасля заняткаў. У раздзявальнях, душавых, прыбіральнях і саўне ідзе «хранічны» рамонт. А час ад часу, калі нешта ламаецца ці цячэ, будаўнікам яшчэ трэба дапамагаць «латаць дзіркі».

У такім веку ўсё пачынае паціху развальвацца. Не вытрымала часу і пачала падаць адна са сцэнаў спорткомплексу. Толькі нядаўна яе ўмацавалі металічнымі канструкцыямі. Да мінулага году працякала столя над манежам: заліло трэнажорную залу на другім паверсе, абсыпалася тынкоўка на сценах, а на манежы падчас дажджу сталі лужыны. Адрамантавалі яе толькі дзякуючы намаганням двухразовай алімпійскай чэмпіёнкі Эліны Зверавай. Ёй самой давялося ісці да міністра фінансаў Міхаіла Корбута «выбіваць» грошы на рамонт.

Эліна Зверава сама трэніруецца тут. Яна выхаванка гэтай спартовай школы. У куце за манежам абнесены сеткай сектар для кідання дыску. Шмат шыбаў было пабіта да таго, як зверху старой сеткі, якая дыскі ўжо не трымала, павесілі новую.

З гэтай школы выйшлі таксама алімпійская чэмпіёнка па штурханні ядра Яніна Карольчык, срэбраны прызёр у кіданні дыска на Алімпійскіх гульнях у Атланце Уладзімір Дубровшчык, чэмпіёнка свету па кіданні дзіды Наталля Шыколенка, чэмпіёнка свету ў трэкавых гонках Наталля Маркаўнічэнка, алімпійскі чэмпіён фехтавальшчык Аляксандр Раманькоў.

У зале фехтавання трэніравалася Марына Лобач, першая абсалютная чэмпіёнка па мастацкай гімнастыцы на Алімпійскіх гульнях у Сеуле ў 1988 годзе. Тады гэты від спорту ўпершыню быў уключаны ў праграму Алімпіяды. У комплексе «Дынама» мастацкіх гімнастаў пачалі рыхтаваць з 1985 году, выдзеліўшы ім для заняткаў спачатку толькі частку залы фехтавання.

Сёння мастацкія гімнасты за свае заслугі маюць цэлыя дзве асобныя залы. Адна ім дасталася ад спартовых гімнастаў, а другую ім падарыў прэзідэнт. Яшчэ на пачатку свайго прэзідэнцтва Аляксандр Лукашэнка неяк наведаў медычны дыспансер спорткомплексу, а гімнасты, скарыстаўшыся зручным момантам, запрасілі яго ў сваю сціплую залу пагледзець на ўмовы трэніровак. У выніку ў 1995 годзе да спорткомплексу зрабілі прыбудову для мастацкіх гімнастаў з некалькімі заламі, асобнай саўнай і пакоем для адпачынку. Афіцыйна яна знаходзіцца на ўласнасці Адміністрацыі прэзідэнта, а спорткомплекс прыбудову толькі арандуе.

Яна не ідзе ў ніякае параўнанне з астатнімі плошчамі спорткомплексу. Пераступіўшы парог звычайных дзвярэй у канцы цёмнага калідору, трапляеш зусім у іншы свет. Тут усё новае і чыстае, паўсюль ляжыць сучаснае дыванове пакрыццё. Кантраст надзвычайны.

Браць залатыя медалі на Алімпіядах, не ўкладаючы належных сродкаў у спартовыя базы, можна да пары. Калі-небудзь нашы алімпійцы вернуцца дамоў з нічым.

**Алена ЛАБАНАВА**



Фота Ул. ШЛАПАКА

# Астралагічны прагноз

## ад Веранікі Кудраўцавай на 21 – 27 студзеня

***Астрапрагноз адлюстроўвае агульны прыродны сацыяльна-псіхалагічны фон накшталт прагнозу надвор'я. Індывідуальнае прагназаванне грунтуецца на дакладных звестках: улічваецца дзень, месяц, год, месца і час нараджэння чалавека.***



**АВЕН.** Сябры, каманда аднадумцаў, што паступова акрэсліваецца, адкрываюць новыя далягляды. Вы самы актыўны ўдзельнік грамадскіх рухаў і калектыўных мерапрыемстваў. Тыя, што стаяць вышэй, лічаць вас сур'ёзным супернікам, у чацвер і пятніцу лепш «не дражніць гусей». У суботу не выключаны страты праз сродкі транспарту і сувязі. У нядзелю прыйдзецца адказваць на нейкую працоўную задачу, прапанову.



**ЦЯЛЕЦ.** У вас добрыя апекуны і сувязі. У другой палове тыдня намячаюцца салідныя прафесійныя прапановы. Супольныя праекты з замежнымі структурамі. Так што падрыхтоўчы этап можа аказацца досыць выніковым, не спіце. У суботу вы будзеце чапляцца па сутнасці да сужэнца ці антаганічнай супольнасці, даючы нейкі выпрабавальны тэрмін. У нядзелю вяртаюцца грошы.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вы зможаце пайсці ва-банк і выйграць, асабліва калі размова ідзе пра кантракты з замежнымі прадстаўнікамі ці салідныя аб'яднанні. Праўда, самы ўдалы экспромт – той, што добра падрыхтаваны ў першай палове тыдня. Магчымы пачатак праверкі, кантралюючай вас працэдуры бліжэй да выхадных. У нядзелю прыйдзе навіна, якая абнадзеіць.



**РАК.** Вас могуць турбаваць пытанні духоўнай спадчыны ці думкі пра тое, хто прыме эстафету прафесійнага майстэрства. Падобна на тое, што бліжэй да выхадных родныя і блізкія будуць шчодрыя – таму некаторых чакае павелічэнне маёмасці. У суботу цяжкае становішча дзіцяці прымусіць прымаць непапулярныя меры і пайсці, калі трэба, на канфлікт. У далёкай дарозе, бліжэй да выхадных, — рамантыка пачуццяў.



**ЛЕЎ.** Ваша праца выстаўляецца на суд грамадскасці. Для рэалізацыі важнай мэты неабходныя і мэтазгодныя кантакты з аўдыторыяй, публікай. Некаторыя здольны ўмацаваць свае пазіцыі праз прэстыжны шлюб ці пагадненне з замежным прадстаўніком. Нягледзячы на тое, што дома ў суботу пакуль не будзе хапаць грошай на вырашэнне нават дробязных праблем, знайдзіце з сужэнцам магчымасць пабачыць прыяцеляў.



**ПАННА.** Цалкам можа быць, што вам дадуць медаль за гераізм, праяўлены ў няпростых службовых абставінах. Вы адказваеце не толькі за сябе, пастарайцеся спалучаць асабістыя інтарэсы з грамадскімі. Выдатны перыяд для ажыццяўлення аздараўленчых працэдур і правядзення аперацый. У суботу магчымы сплата штрафу ці страта часткі сродкаў – будзьце асцярожны. Часам вырашальную ролю адыгрываюць людзі здалёк.



**ШАЛІ.** Калегі, сябры здольныя ўцягнуць вас у грамадскую гульню, якая прыйдзецца вам даспадобы. Ёсць сэнс абапірацца на тых, хто гатовы прыйсці вам на дапамогу, творча цікавых партнёраў, бо тое, што не ўдаецца вам, — атрымаецца ў іх. Бліжэй да выхадных – перспектывы далёкага падарожжа, натхнёная кахання з прыкметным чалавекам, у некаторых – тонкай палітычнай, дыпламатычнай гульні.



**СКАРПІЁН.** Калі дагэтуль на працы панує амаль святочны настрой, то ў чацвер і пятніцу абвастрацца інтрыгі: нехта з супрацоўнікаў вырашае праблемы з трэскам. У суботу – бязладдзе ў хатняй гаспадарцы. Лепш пазбягаць справаў, якія могуць стамляць, бо ад сваркі цяжка будзе ўстрымацца. Затое бліжэй да выхадных некаторыя паспяхова пачынаюць працэс, звязаны з роднымі, кватэрай, нерухомасцю. Глеба пад нагамі робіцца больш трывалай.



**СТРАЛЕЦ.** Удзел у значным грамадскім мерапрыемстве здольны ўмацаваць ваш статус, выгадна выдзяліць у працоўным асяроддзі. Аспрамуйце свае дасягненні, вы цяпер заўважныя і набыт можаце ў пэўны момант згуляць на гэтым. На вуліцы кахання пачнецца вясна. Пастарайцеся толькі ў суботу не прастудзіцца на гэтай ўліцы, не растрацціць каштоўныя сродкі. У нядзелю нечая парада ці прапанова дапаможа ў прасоўванні да дасягнення жаданай мэты.



**КАЗЯРОГ.** Вы можаце палепшыць дабрабыт, становішча блізкіх. У выніку добра прадуманай гульні, фінансавай аперацыі, прафесійнай здзелкі намячаецца папаўненне бюджэту бліжэй да выхадных. У суботу не спяшайцеся выдаткоўваць на сяброў — дабрачыннасць могуць не ацаніць як належыць. На ўік-энд дайце мажлівасць каханаму ці дзіцяці зрабіць вам падарунак.



**ВАДАЛІЎ.** Шмат хто хоча бачыць вас і наваt «разабраць на сувеніры». Чым больш вы на відавоку, у сувязях і паездках, тым лепш, бо шанец пападці зваліцца на галаву тым, хто яго шукае. У чацвер і пятніцу пажадана не канфліктаваць з замежнымі ці буйнымі дзяржаўнымі прадстаўнікамі. Бліжэй да выхадных на вас абрынецца струмень пяшчоты і кахання, але толькі калі вы самі выявіце ініцыятыву.



**РЫБЫ.** Нарэшце закулісныя мерапрыемствы адкрываюць дарогу фінансавым прыбыткам, здароўе рэзка паляпшаецца праз прыліў сілаў. Надзвычай рэзультатыўным аказваецца прабыванне на курорце, у санаторыі, клініцы. Блізкія яшчэ больш гатовыя ацаніць вашую значнасць дома, у сваім жыцці. Але толькі чацвер і пятніца – не лепшыя дні для валютных аперацый ці паездак за мяжу, могуць быць праблемы на мяжы.

Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1111 Нумар падпісаны ў друк 20/01/2002 (15:00) Наклад – 8.150